Літ

# Побач і разам

«Паказаць культуру, навуку, адукацыю адноўленай Расіі праз прызму кнігавыдання, падкрэсліць агульнасць славянскіх культур, крэўную і духоўную роднасць народаў Рэспублікі Беларусь і Расіі», — такія вызначальныя мэты ўдзелу ў XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы яе Ганаровага госця — Расійскай Федэрацыі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Удзел арганізаваны Федэральным агенцтвам па друку і масавых камунікацыях разам з Генеральнай дырэкцыяй міжнародных кніжных выставак і кірмашоў.

Прэзентацыя расійскім бокам сваёй кнігавыдавецкай справы ўразіла размахам і ўсебаковасцю.

Па-першае, зразумела, кнігі. Наведвальнік зможа азнаёміцца з экспазіцыямі каля 200 выдавецтваў, сярод якіх знакамітыя «Азбука», «Амфора», «Феникс», «Детская литература», «АСТ» і інш. Дзеля зручнасці і пэўнага лагічнага ўвасаблення кнігі каля 50 выдавецтваў абагуленыя ў тэматычныя экспазіцыі. Так, адпаведна сваім прыярытэтам, чытач больш дэталёва заглыбіцца ў «Свет славянскай культуры», «Выданні для дзяцей і юнацтва», «Выдавецкія праграмы Урада Масквы», у «Мастацкую літаратуру» і інш. Асобнай экспазіцыяй — расійскія СМІ: газета «Книжное обозрение», часопісы «Читаем вместе», «Книжная индустрия», «Университетская книга». Іх нават можна ўзяць з сабой.

...І — сустрэчы: падчас прэзентацый перад чытачамі выступілі Генадзь Кудзій, Аляксандр Праханаў, Аляксандр Казінцаў і інш. Своеасаблівы акцэнт творчых мерапрыемстваў выстаўкі — паэтычны вечар з удзелам беларускіх і расійскіх паэтаў у Доме літаратара 8 лютага.

Таксама — імпрэзы. Галоўнай «разынкай» свайго стэнда арганізатары з Расіі лічаць тэму дзіцячага чытання і кнігавыдання. Легендарнае выдавецтва «Детская литература» адзначае сёлета 80-гадовы юбілей і таму будзе прэзентаваць сябе надзвычай шырока. У выхадныя дні адбудуцца дзіцячыя святы кнігі: конкурс «Ці ведаеце вы казкі?», літаратурная віктарына, прэзентацыя міжнароднага конкурсу юных чытальнікаў «Живая классика».

Асобная частка расійскай праграмы арыентаваная на цеснае супрацоўніцтва, абмен досведам з беларускім бокам: пісьменнікамі, выдаўцамі, журналістамі, навукоўцамі. Таму арганізаваныя семінары «Літаратурныя прэміі і кніжныя конкурсы ў Расіі і Беларусі», «Роля літаратурных часопісаў у сучасным літаратурным працэсе», дыскусіі «У чым асаблівасці мастацкай літаратуры XXI стагоддзя», «Погляд кнігагандляра на праблемы чытання». Акцыя сяброўства і двухбаковага супрацоўніцтва — урачыстая перадача ў дар беларускім бібліятэкам кніг Нацыянальнага стэнда Расіі па завяршэнні выстаўкі ў Нацыянальнай бібліятэцы 10 лютага.

## Удзельнікам XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу

***Дарагія сябры!***

***Віншую вас з адкрыццём XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.***

***За мінулыя 20 гадоў гэты форум стаў не толькі адной з яркіх падзей у культурным і духоўным жыцці краіны, але і набыў шырокую вядомасць у сусветнай кніжнай супольнасці. Гэта юбілейная выстаўка-кірмаш падводзіць своеасаблівыя вынікі Года кнігі, вялікай і карпатлівай работы па папулярызацыі чытання, літаратуры, мастацкага слова.***

***Мы сардэчна вітаем ганаровага госця форуму — Расію, а таксама ўсіх замежных удзельнікаў, якія прадставяць экспазіцыі са сваіх краін. Перакананы, што наведвальнікі па заслугах ацэняць вашу выдавецкую прадукцыю.***

***Жадаю арганізатарам і ўдзельнікам выстаўкі плённай працы і поспехаў, а яе гасцям — цікавых і запамінальных сустрэч з цудоўным светам кнігі.***

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**




Фота Кастуся Дробава.

# Чытаеш кнігу, знаходзіш сябе!

Пад такім дэвізам у Нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭкспа» распачала працу XX Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Ганаровым госцем сёлетняга форуму стала Расійская Федэрацыя, а цэнтральным экспанентам — Іран.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Больш як 600 экспанентаў з 25 краін-удзельніц; экспазіцыйная плошча — 5 тысяч квадратных метраў; дзясяткі прэзентацый, прэс-канферэнцый, «круглых сталоў» — і гэта толькі сціплая статыстыка юбілейнага кніжнага форуму ў Мінску. За лічбамі — мноства сустрэч старых сяброў, новых знаёмстваў, плённых задумак, перспектыўных ідэй, яркіх уражанняў ад сустрэчы з кнігай.

Дэвіз Мінскага кніжнага форуму надзвычай актуальны, бо ён закранае задачы, звязаныя з падтрымкай кнігі, дэманструе імкненне беларусаў і ў XXI стагоддзі чытаць кнігу, развівацца разам з ёй, асвойваць новыя сегменты кнігавыдання. Таму і ўвага да кніжнага форуму ў нашай краіне — на самым высокім дзяржаўным узроўні, і стаўленне да яго — адпаведнае. Так, ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця выстаўкі ўзялі ўдзел першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, першы намеснік міністра інфармацыі краіны Лілія Ананіч, намеснік кіраўніка Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Уладзімір Казлоў, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына.

Лілія Ананіч падчас адкрыцця міжнароднага форуму падкрэсліла: «Гэтая выстаўка засведчыла, што Рэспубліка Беларусь на дастойным узроўні завяршае Год кнігі. 2012 год — гэта шмат знакавых праектаў, больш як 11 тысяч найменняў кніг тыражом звыш 34 мільёнаў асобнікаў. Спадзяёмся, што дні працы форуму будуць плённымі для новых выдавецкіх ідэй. Мы ж прадставім праекты, якія сапраўды можна лічыць гонарам айчыннага кнігавыдання».

Намеснік кіраўніка Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Уладзімір Казлоў, які ў Мінску ўзначальвае дэлегацыю Ганаровага госця форуму, адзначыў: «20 год — узрост паўналецця, але і час для новых адкрыццяў, смелых рашэнняў. Несумненна, Мінская кніжная выстаўка адбылася, стала важнай падзеяй не толькі для Беларусі, але і для Расіі, для ўсіх аматараў кнігі ў свеце».

(Заканчэнне на стар. 2.)

# Прэстыжная ўзнагарода — суайчынніцы

Сярод іншых прэмій ёсць і традыцыя, калі тое ці іншае выдавецтва адзначае сваіх аўтараў. Гэта — адзін з важных складнікаў стымулявання аўтара і выдавецтва.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

У ЗША прысуджана выдавецкая прэмія аўтару «ЛіМа» часопісаў «Маладосць» і «Нёман» празаіку Алене Брава. Штогод 29 студзеня амерыканскае выдавецтва «Franc-Tireur USA» адзначае прэміяй «Вольны стралок: Сярэбраная куля» лепшыя кнігі выдавецкага года. Сёлета міжнародная прэмія і адпаведны статус «Франціро̆р 2013» прысуджаны Алене Брава «па сукупнасці выдадзенага і ў перспектыве чакаемага». У 2012 годзе і на пачатку 2013-га ў Алены выйшлі ў ЗША на рускай мове кнігі «Каханне ў цэну казармаў Манкада», «Спектакль у чорным тэатры» і «Менада і ее сатыры». Усе творы на рускую мову перакладзены аўтарам.

Рашэнне аб прысуджэнні прэміі ў дзень нараджэння А. Чэхава, Б. Пастарнака і самога выдавецтва прымае міжнародны савет, у склад якога цяпер уваходзяць пісьменнікі і славісты Марына Камі (ЗША), Сяргей Юр'енен (ЗША), Дзмітрый Бавільскі (Расія), Мікалай Бокаў (Францыя), Аляксандр Кабакоў (Расія), Марыо Корці (Італія), Элен Менегальда (Францыя), Андрэй Назараў (Данія), Міхаіл Эпштэйн (ЗША). Сёлета выдавецтву «Franc-Tireur USA» споўнілася пяць год. Яго стваральнік і заснавальнік прэміі «Вольны стралок: Сярэбраная куля» — вядомы пісьменнік Сяргей Юр'енен, лаўрэат некалькіх міжнародных літаратурных прэмій, у тым ліку «Рускай прэміі» 2009 года, аўтар раманаў «Вольны стралок», «Парушальнік мяжы», «Халодная вайна», «Хлопчыкі Дзягілева», «Славацкі консул» ды іншых. Вырас у Мінску, яго літаратурны дэбют адбыўся ў часопісе «Нёман» яшчэ ў 1966 годзе.

Алена Брава — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, жыве ў Барысаве. З першымі празаічнымі творамі дэбютавала ў часопісе «Маладосць». Летась за кнігу «Імя Ценю — Святло», якая выйшла ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва», была адзначана Мінскай абласной прэміяй у галіне літаратуры ў намінацыі «Проза». Яе аповесці «Каменданцкі час для ластавак» і «Дараванне» надрукаваны ў расійскім літаратурным часопісе «Сибирские огни», за апошнюю з іх аўтар узнагароджана расійскай літаратурнай прэміяй імя Канстанціна Сіманава і залатым медалём. Дарэчы, аповесць «Дараванне», якая перакладзена і на нямецкую мову, у бліжэйшы час павінна пабачыць свет асобнай кнігай.

Будзем спадзявацца, што традыцыя замежнага выдавецтва адзначаць штогод сваіх лепшых аўтараў будзе ўзята на ўзбраенне і айчыннымі выдавецтвамі.

Літсувязі

# «Паслы»: беларускі нумар «Нашего современника»




*Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў.*

Прэзентацыя расійскага часопіса адбылася падчас першага дня працы ХХ Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. У дзявяты раз снежаньскі нумар часопіса (ён выдаецца з 1956 г.) складаецца ў асноўным з публікацый беларускіх аўтараў: пісьменнікаў, паэтаў, публіцыстаў. Гэта тым больш пачэсна, што «Наш современник», разам з «Новым миром», «Звездой» і іншымі г. зв. «тоўстымі часопісамі», — своеасаблівы сімвал інтэлектуальнай Расіі.

**Тацццяна СТУДЗЕНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Асноўныя кірункі публікацый «Нашего современника» — сучасная проза і патрыятычная публіцыстыка. У рэчышчы такога пазіцыянавання часопісу давялося некалі стаць першаадкрывальнікам «вясковай прозы» — творчасці Фёдара Абрамава, Віктара Астаф'ева, Валянціна Распуціна і інш. Адметная асаблівасць сённяшняга выдання — як мага больш шырокі ахоп жыцця Расіі — і ў глыбінцы, і ў мегаполісах. Варта дадаць, што «Наш современник» — лідар сярод калег па колькасці індывідуальных падпісчыкаў.

Спадзяёмся, што расіянам будзе цікава на падставе мастацкіх твораў і публіцыстыкі беларускіх аўтараў даведацца, чым і як жыве Беларусь, адчуць эмацыянальны настрой яе народа. Сумесны праект — частка духоўна-культурнага супрацоўніцтва ў межах Саюзнай дзяржавы, складнік не менш істотны за эканамічныя і палітычныя працэсы.

Пад брэндам «Белая Русь» да расійскага чытача прыйдзе аповесць Аляксандра Валковіча «Жытная Баба», апавяданне Андрэя Федарэнкі «Алеся», вершы Генадзя Пашкова, Міколы Мятліцкага, Анатоля Аўруціна, лірычныя мініяцюры Георгія Марчука «Лісты да каханай», «Аўцюкоўскія пацешкі» Уладзіміра Ліпскага, публіцыстыка Алега Праляскоўскага, Якава Аляксейчыка, Льва Крышталевіча, Чэслава Кірвеля, краязнаўчы нарыс Алеся Карлюкевіча пра «адрасы» рускай літаратуры ў Беларусі ды іншыя матэрыялы.

# Чытаеш кнігу, знаходзіш сябе!

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

«Нам, пісьменнікам Беларусі, вельмі пашанцавала, — упэўнены Мікалай Чаргінец. — Бо мы маем свой кніжны форум, дзе нас могуць пачуць і мы можам пачуць іншых. Пашанцавала і таму, што кіраўніцтва нашай краіны, у першую чаргу Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, удзяляе вялікую ўвагу творцам. Думаецца, выстаўка — гэта яшчэ і магчымасць для аўтараў з розных краін свету аб'яднацца і разам вырашаць актуальныя для ўсіх пытанні».

Такім чынам, удзельнікамі ХХ Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу сталі Азербайджан, Арменія, Венесуэла, Германія, Індыя, Іран, Італія, Казахстан, Кітай, Куба, Літва, Малдова, Польшча, Расія, Славакія, ЗША, Фінляндыя, Таджыкістан, Туркменістан, Турцыя, Украіна, Францыя. У якасці дэбютантаў форуму выступаюць Палесціна і Сербія.

Нагадаем, што ў пятніцу і суботу форум працуе з 10.00 да 19.00, у нядзелю — з 10.00 да 15.00. Уваход вольны для ўсіх наведвальнікаў.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## Пленума грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі» — «Год кнігі: пісьменнік — чытач — кніжны гандаль — бібліятэка»

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад члена ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» Лапцёнка І. М., **Пленум СПБ адзначае:**

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб аб'яўленні 2012 года Годам кнігі» і Пастановай Савета Міністраў аб прыняцці рэспубліканскага плана мерапрыемстваў па правядзенні ў 2012 годзе Года кнігі ГА «СПБ» значна актывізаваў работу па прапагандзе і распаўсюджванні кнігі ў краіне. Год кнігі і ўсе мерапрыемствы, звязаныя з ім, садзейнічалі ўзняццю аўтарытэту кнігі як носьбіта духоўнасці, народнай маралі і этыкі, крыніцы пазнання чалавека ў сучасным свеце. Страціць сёння кнігу, зменшыць яе ўплыў на нашу паўсядзённасць — значыць зніжэць узровень маральна-этычнага стану сучаснага грамадства, страціць унікальнасць, самабытнасць і арыгінальнасць самога чалавека як Асобы, яго самадастатковасць, самакаштоўнасць.

Канцэптуальнасць пастаноўкі пытання «пісьменнік — чытач — кніжны гандаль — бібліятэка» мае грунтоўную аснову, праблема актуальная, вызначальная для стану сучаснага літаратурнага працэсу і ролі пісьменніка ў грамадстве. Як слова наша адгукнецца ў сённяшніх умовах — залежыць не толькі ад самога пісьменніка, але і ад мноства аб'ектыўных фактараў, дзейнасці шматлікіх зацікаўленых у распаўсюджванні кнігі арганізацый, устаноў, асяродкаў культуры, аматараў кнігі.

У мінулым годзе арганізоўваліся мэтанакіравана азнакамляльныя выезды груп пісьменнікаў па Мінскай, Гомельскай, Магілёўскай, Гродзенскай абласцях. Год кнігі супаў з юбілеямі класікаў беларускай літаратуры — 130-годдзем з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, 100-годдзем з дня нараджэння М. Танка. Знамянальнай падзеяй стала 1150-годдзе Полацка — горада, з якім звязана дзейнасць Францыска Скарыны, Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага. Змястоўна прайшлі Дзень беларускага пісьменства, іншыя літаратурныя святы.

Прыняты Закон «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь».

Саюз пісьменнікаў Беларусі прадўжае папаўняць значную для гісторыі беларускай літаратуры «Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі», у якой прадстаўлена творчасць класікаў і сучасных пісьменнікаў. Выдадзена 54 тамы.

Актывізавалася работа абласных пісьменніцкіх арганізацый па прапагандзе і распаўсюджванні кнігі сярод насельніцтва. Павялічваецца дзяржаўная падтрымка нацыянальнага кнігавыдання. Упершыню за апошнія 10 гадоў для выпуску ўключана 11 найменняў літаратурна-мастацкіх твораў беларускіх аўтараў для мэтавага папаўнення бібліятэк. Рыхтуюцца такія выданні і на 2013 год. Штогод праводзяцца конкурсы «Лепшы літаратурны твор года» сумесна з Мініфармацыі, Мінкультуры, Мінадукацыі. Арганізаваны конкурсы маладых літаратараў.

Аднак у рабоце ГА «СПБ» па прапагандзе і распаўсюджванні кнігі мы бачым яшчэ нявыкарыстаныя рэзервы. Не ў поўным аб'ёме ўлічваюцца прапановы бібліятэк па выпуску кніг для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, літаратуразнаўчай, а таксама галіновай літаратур. У канцэптуальнай сувязі «пісьменнік — чытач — кніжны гандаль — бібліятэка», прапанаванай ГА «СПБ», варта паўсядзённа захоўваць непаўторнасць падобнай сувязі, мацаваць дадзены «ланцужок» духоўнасці, пашырэння ролі кнігі ў культурным узвышэнні грамадства і чалавека.

Не задавальняе стан і развіццё літаратурна-мастацкай крытыкі ў пісьменніцкай арганізацыі, недаацэнка ці адсутнасць добразычлівай, але справядлівай крытыкі негатыўна ўплывае на якасць літаратурнай прадукцыі.

Пісьменніцкая арганізацыя краіны не выкарыстоўвае для прапаганды кнігі электронныя носьбіты, па сутнасці СПБ не мае свайго партала, не адкрываюць уласныя сайты і самі пісьменнікі.

**Пленум Праўлення ГА «СПБ» пастанаўляе:**

1. Абласным і Мінскаму гарадскому аддзяленням ГА «СПБ» працягваць працу па пашырэнні прапаганды беларускага кнігавыдання, прыцягненні ўвагі да літаратурных навін, папаўненні бібліятэк.
2. ГА «СПБ» больш мэтанакіравана выкарыстоўваць новыя інфармацыйныя магчымасці грамадства і актывізаваць работу сайтаў абласных арганізацый, садзейнічаць адкрыццю асабістых сайтаў членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, што дазволіць больш шчыльнаму яднанню пісьменніка і чытача.
3. ГА «СПБ» актыўней выходзіць з ініцыятывай адкрыцця новых рубрык у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, тэлевізійных праграм на нацыянальным тэлебачанні, радыё і ў інтэрнэт-прасторы.
4. Праўленню ГА «СПБ» прыняць меры па стварэнні партала СПБ, актывізацыі сайта «Літаратурна-мастацкая крытыка».
5. Кіраўніцтву ГА «СПБ» узяць удзел у гадавых справаздачных сходах за 2012 год у абласным і Мінскім гарадскім аддзяленнях.
6. Пленум ГА «СПБ» патрабуе ад пісьменнікаў больш крытычнага і адказнага стаўлення да ўласнай творчасці, перасцерагае ад ваяўнічай амбіцыёзнасці, наступальнага самапіяру, уздымаючы эстэтычную сілу ўздзеяння мастацкага слова на чытача.
7. Кіраўніцтву ГА «СПБ», абласных і Мінскага гарадскога аддзяленняў, галоўным рэдактарам часопісаў «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Белая Вежа», штотыднёвіка «ЛіМ», творчым секцыям прыняць арганізацыйныя меры па стварэнні своеасаблівага грамадскага Інстытута крытыкі, далучаць да гэтай працы маладых літаратараў.
8. Сумесна з Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі правесці ў 2013 годзе Пленум Праўлення па пытаннях стану і шляхоў удасканалення сучаснай літаратурна-мастацкай крытыкі.
9. Праўленню ГА «СПБ» у сваёй паўсядзённай працы ў мэтах заахвочвання непарыўнай дзейнасці ўсіх звёнаў «пісьменнік — чытач — кніжны гандаль — бібліятэка» надаваць больш увагі працы кожнага з гэтых звёнаў, вылучаючы лепшых у галінах, незалежным чынам пазначаючы дзейнасць супрацоўнікаў кніжнага гандлю і бібліятэк, у тым ліку бібліятэчных работнікаў на месцах.

**Пленум ГА «СПБ» заключае:**

«Год кнігі» стаў плённым і важным этапам у духоўным жыцці грамадства і краіны.

З часоў Скарыны, які здзейсніў грамадзянскі подзвіг, даўшы людзям кнігу для пашырэння навучання і хрысціянскай веры, калі з Візантыі паехалі вазы з кнігамі ў манастыры Полацка, Навагародка, Турава, кніга была і застаецца адным з найгалоўнейшых захавальнікаў мудрасці народа, выразнікам нацыянальнага духу, паказчыкам самасвядомасці нацыі, духоўным набыткам любой сям'і, лепшым падарункам для кожнага, ганарам для пісьменніка і чытача.

Пленум ГА «СПБ» падтрымлівае ініцыятыву грамадскіх арганізацый пра аб'яўленне Мінска сусветнай сталіцай кнігі ў гонар 500-годдзя надрукавання нашым земляком, першадрукаром і асветнікам з Полацка першай кнігі 6 жніўня 1517 года.

**(Публікуецца ў скарачэнні.)**

Літабсягі

# Голас Полацка

Творчы вечар «Мой шлях памысны і высокі...» паэта, публіцыста, галоўнага дырэктара міжнароднага радыё «Беларусь» прайшоў у галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

Навум Гальпяровіч прызнаўся: «Чую па радыё, што трэба ў грамадскім транспарце саступаць старэйшым месца, што трэба быць верным свайму слову... Для некаторых людзей, на жаль, гэта нібыта адкрыццё. А для мяне тыя кніжкі,назіранні, людская мудрасць, мараль, якая выхоўвалася ў гарадах, пасёлках, мястэчках, рабіла такія высновы, якія і сталі асноўнымі ў маім жыцці».

На літаратурна-музычную вечарыну завіталі блізкія людзі, аматары творчасці і журналісцкай дзейнасці Навума Якаўлевіча. Сярод іх Міхась Пазнякоў, Наталля Ваніна, Віктар Шніп, Юрый Сапажкоў, Янка Стадольнік, Ганад Чарказян, Алесь Бадак, Адам Мальдзіс, Таццяна Сівец ды іншыя.

Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў, што Навум Гальпяровіч зрабіў значны ўклад у захаванне і папулярызацыю нацыянальнай беларускай культуры. «Ваша палымянае слова заўсёды было пачута. У вашай асобе спалучаецца столькі выдатных чалавечых якасцей і неабмежаваных магчымасцей! Нават пералік грамадскіх і прафесійных пасад, якія вы займаеце, сведчыць пра захопленасць душы».

Беларускі бард Аляксей Нежавец праспяваў песні на вершы Навума Гальпяровіча, прозу яго выконвалі артысты Алег Вінярскі і Маргарыта Захарыя. Юбіляра апранулі ў непаўторную вышыванку ад Беларускага фонду культуры. Госці шмат добрых слоў казалі пра галоўнага героя вечарыны, але ён імкнуўся найперш падзяліцца плёнам сваёй працы: распавесці пра родны Полацк, пагаварыць пра новыя творы. Дарэчы, пра запатрабаванасць пісьменніка Н. Гальпяровіча сведчыць і той факт, што кніга «На трапяткім агні» стала самым чытаемым празаічным творам у Слуцку. Мяркую, і ў іншых гарадах Беларусі яна калі не першая, дык у тузіне лідараў.



*Навум Гальпяровіч (справа) прымае віншаванні ад Адама Мальдзіса.*

Завяршылі вечарыну паэтычныя радкі:

*Плывуць вячыстыя аблокі,*
*Дыміцца свежая ралля.*
*Мой шлях памысны і высокі,*
*Бо ў родным краі гэты шлях...*

Арт-лінія

# У народнай памяці

Апошні тыдзень студзеня прайшоў у Беларусі пад знакам Міхаіла Пташука — таленавітага кінарэжысёра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народнага артыста БССР, якому б споўнілася 70 гадоў. У кінатэатрах і на тэлеканалах дэманстраваліся найбольш вядомыя яго фільмы, ладзіліся сустрэчы з майстрамі мастацтва, якія працавалі разам з ім.



*Міхаіл Пташук на здымачнай пляцоўцы.*

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Вечарына, прысвечаная памяці кінамастака, адбылася і ў сталічным Доме кіно. Адкрываючы яе, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў адзначыў: «Міхаіл Пташук — гэта вялікі рэжысёр, вялікі чалавек, вялікі беларус». І гэта сапраўды так. Ён здымаў сапраўднае нацыянальнае кіно, умела адлюстроўваў у ім боль, пакуты, радасці і надзеі роднай краіны. Гэта падкрэслівалі акцёр Уладзімір Гасцюхін, кампазітары Сяргей Картэс і Анатоль Длускі, паэтэса Раіса Баравікова, кінакрытык Людміла Саянкова, тэлерэжысёр Сяргей Кацьер, які да юбілею М. Пташука зняў фільм «Будзе доўгім развітанне...»

Цесная дружба звязвала Міхаіла Мікалаевіча з беларускімі пісьменнікамі. Ён паспяхова экранізаваў раманы Івана Шамякіна «Вазьму твой боль», Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», аповесць Васіля Быкава «Знак бяды».

«У кожным з гэтых фільмаў ёсць часцінка мяне самога, маёй мамы Марыі Сямёнаўны, суседзяў — людзей, сярод якіх я вырас, — расказваў Міхаіл Пташук. — Чытаючы "Знак бяды", я бачыў сваю хату ў ляхавіцкай вёсцы Федзюкі, бачыў, як ходзяць па ёй быкаўскія героі. Я ведаў кожны рух Сцепаніды, чуў кожнае слова шамякінскага Івана Батрака. Не трэба было нічога прыдумляць. Мне было лёгка з імі, я ведаў іх кожны крок, таму мізансцэны нараджаліся самі, лёгка прымаліся акцёрамі, ім было зручна ў іх».

М. Пташук — аўтар 12 кінастужак, большасць з якіх удастоены гран-пры міжнародных конкурсаў і фестываляў. У іх здымаліся зоркі экрана, народныя артысты СССР Міхаіл Ульянаў, Аляксей Пятрэнка, Міхаіл Пугаўкін, Ніна Русланава, Пётр Вельямінаў, Любоў Палішчук, Стэфанія Станюта, Генадзь Гарбук і многія іншыя.

Не ўсё было проста ў жыцці рэжысёра. Кінастужкі «Наш браняпоезд», «Кааператыў "Палітбюро"» былі адпраўлены «на паліцу». Сакратар ЦК КПСС Я. Лігачоў забараніў паказ «Знака бяды»: «У савецкія калгасы людзі ўступалі добраахвотна, а не пад прымусам, як паказаў Пташук». Час расставіў усё на свае месцы. Менавіта гэтыя фільмы былі ўдастоены высокіх і прэстыжных узнагарод.

Рэжысёр марыў стварыць кінафільмы пра Вітаўта, расказаць пра лёсы чарнобыльцаўперасяленцаў... Аднак трагічная смерць абарвала жыццё майстра на творчым узлёце.

«Яркая асоба, Божы дар Беларусі», — так называлі М. Пташука яшчэ пры жыцці нашы сучаснікі і з любоўю адзначалі яго ўнікальны ўклад у развіццё не толькі айчыннага, але і сусветнага кінематографа. Уклад, які патрабуе ўважлівага вывучэння і ўвагі.

Повязі

# Кубінскі прыклад

Дні Рэспублікі Куба ў Беларусі абяцаюць даволі насычаную праграму, у цэнтры якой — 160-я гадавіна з дня нараджэння нацыянальнага героя Кубы Хасэ Марці. Мерапрыемствы прадоўжацца да 14 лютага.

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

На прэс-канферэнцыі, што ладзілася ў Доме дружбы з нагоды адкрыцця дзён, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Куба ў Беларусі Альфрэда Ньевес Партуонда патлумачыў увагу да славутай асобы:

— Хасэ Марці аб'яднаў наш народ. Няма ніводнага перыяду яго жыцця, які б не быў звязаны з барацьбой за свабоду кубінскага народа.

Хасэ Марці быў журналістам, нарысы якога перадрукоўвалі найбуйнейшыя выданні кантынента. Спадар пасол назваў яго ўзорам маралі, этычных і прафесійных паводзін у журналістыцы.

Выдатны літаратар, адзін з заснавальнікаў плыні мадэрнізму ў паэзіі Лацінскай Амерыкі, Хасэ Марці сказаў пра свой час: «Сёння сімвал міру для мяне — паламаныя крылы».



*Падчас прэс-канферэнцыі.*

За выказванне сваіх палітычных поглядаў Хасэ Марці неаднаразова быў арыштаваны. У апошнія месяцы свайго жыцця ён стаў непасрэдным удзельнікам узброенага руху супраць іспанскіх каланізатараў. Ідэалы Хасэ Марці сталі ідэаламі для наступных пакаленняў кубінцаў.

Дарэчы, гэтымі днямі мінскай сярэдняй школе № 91 было прысвоена імя Хасэ Марці.

Абрысы

У Дзяржаўным літаратурнамемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася ўрачыстая цырымонія падвядзення вынікаў конкурсаў «130 прысвячэнняў Песняру» і «Прысвячаю Коласу». У намінацыі «Паэзія» пераможцамі сталі Яўген Карпуць — паэт, настаўнік, удзельнік Стаўбцоўскага раённага літаратурна-музычнага аб'яднання «Аўтограф» (1-е месца), Марыя Дзмітранок — заснавальніца школы паэзіі «Лотас» Аршанскага гарадскога цэнтра творчасці дзяцей і моладзі (2-е месца) і Алена Лютко — выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, г. Мінск (3-е месца). У дзіцячым літаратурным конкурсе «Прысвячаем Коласу» 1-е месца прысуджана Мар'і Янковіч з Пінска; 2-е месца падзялілі мінчанкі Валерыя Дварэцкая і Ганна Куніцкая; 3-е — у Яны Лобавай (г. Мінск) і Юліі Лісавай з Оршы. У намінацыі «Проза» перамагла Ульяна Стрыжнёва; 2-е месца — у Мікіты Сініцкага (абодва з Мінска).

**Рыта СТАХ**

Конкурс «Любоў да Айчыны праз любоў да свайго роду», арганізаваны Міжнародным дабрачынным фондам «Сям'я — Адзінства — Айчына», Беларускім саюзам жанчын і часопісам «Алеся», назваў пераможцаў. Конкурс праходзіў па трох напрамках: літаратурныя работы, фотаздымкі і дзіцячыя малюнкі. У літаратурным конкурсе «Мая сям'я — часцінка Беларусі» перамагла гімназістка з Наваполацка Яўгенія Курачова. Яшчэ пяцёра канкурсантаў за свае літаратурныя работы былі адзначаны спецыяльнымі прызамі: Ірына Шатыронак, Галіна Мішнёва, Ніна Пруднікава, Надзея Матусевіч і Людміла Бандарэнка.

**Алеся БАЦЮСЬ**

Літаратурны музей Максіма Багдановіча ўжо не першы год святкуе Таццянін дзень, запрашаючы на імпрэзу вядомых у беларускай культуры Таццян. Сёлета гэта былі паэтка і мастацтвазнаўца Т. Мушынская, паэткі Т. Пратасевіч, Т. Барысюк і Т. Будовіч-Барадуля, а таксама артыстка Белдзяржфілармоніі Т. Грыневіч. І згадвалі таксама Таццян — тых, чый лёс быў звязаны з жыццём і лёсам славутага паэта Максіма Багдановіча, а гэта найперш яго бабуля па лініі маці — Т. Мякота. Яе спевы, а таксама казкі і паданні, што яна распавядала ўнукам, былі часткай таго фундаменту, на якім узрос і расквітнеў талент М. Багдановіча.

**Таццяна БАРАДУЛЯ**

Прэзентацыя кнігі «Музыка дажджу» навагрудскай паэтэсы Святланы Абдулаевай адбылася ў Ізраілі, куды нашу пісьменніцу запрасілі яе творчыя сябры. Яны ж паспяхова арганізавалі дзве сустрэчы з рэпатрыянтамі, якія прыехалі калісь з Беларусі, Украіны, Расіі, Прыбалтыкі. Вершы Святланы Абдулаевай — гэта роздум пра сэнс жыцця і таямніцу часу, пра чалавечыя стасункі і прыгажосць прыроды. Многія з іх нагадваюць музычныя п'есы-накцюрны — любімы жанр рамантыкаў. Творчасць нашай землячкі выклікала вялікую цікавасць. Слухачы задавалі самыя розныя пытанні, у тым ліку і пра старажытны горад Навагрудак. Нехта з гасцей імпрэзы нават успомніў і прачытаў вершы па-беларуску. Прыемна было ў чужой краіне чуць найродную мову. Паэтэса вярнулася дадому з творчым натхненнем і цыклам новых вершаў.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

# Думаць сэрцам

Чаго хоча чытач ад літаратуры, чаго чакае, спыняючы звыклае кола будзённасці і беручы ў рукі кнігу? Можа, не ў апошнюю чаргу адхлання, супакоенасці, вяртання веры. Напрыклад, у тое, што шчасце — гэта насамрэч проста, шчырасць яшчэ магчымая паміж людзьмі, а жыццё ёсць і ў бальнічных сценах.

**Марыя АЗЯРЭЦКАЯ**

На што спадзяецца аўтар, калі ідзе на дыялог з чытачом, да чаго імкнецца? Сярод розных магчымых адказаў прыцягальна-кранальным выглядае спадзяванне на сувязь сэрцаў, на тое, што сэрца нават незнаёмага чалавека пачуе тое, што прамаўляе тваё. Такую — душэўную — камунікацыю абрала аднойчы Нэлі Тулупава, паэтэса, празаік, перакладчыца. Магчыма, гэта быў не выбар, а прадвызначанасць. Але пакінем блытацца ў фармулёўках, галоўнае тое, што чаканні аўтара і чытача супадаюць і шчаслівае сумоўе адбываецца.

У Нэлі Тулупавай звонкі голас. Гэта стала зразумела з першага яе паэтычнага зборніка «Станцыя надзей». «Дыханнем юнацтва, прадчуваннем яшчэ не зведаных дарог, нястрыманай сілай кахання прасякнуты радкі вершаў маладой паэтэсы», — гаворыцца ў анатацыі. Нястрыманасць, «половодье чувств» сапраўды вылучаюць гэты зборнік. А яшчэ лёгкасць, узнёсласць і, безумоўна, святло і цеплыня — два асноўныя складнікі яе паэтычнага свету. І не толькі паэтычнага, але і рэальнага. Прынамсі, вельмі хацелася бачыць, пісаць, рабіць свет такім — напоўненым цеплынёй, святлом, любоўю.

Пры гэткім стаўленні да жыцця як да свята — радасным, імпульсіўным — можна было б западозрыць у аўтаркі лёгкую, бесклапотную долю. Аднак не. Проста, відаць, каб пачаць бачыць хараство жыцця, яго свежасць, непаўторнасць і адным гэтым харастром быць шчаслівай, трэба аднойчы ўсвядоміць смяротную небяспеку для сябе і для свету. Вайна прайшла праз лёс сям'і паэтэсы, пакінуўшы назаўсёды абпаленай памяць. Праца ў сферы медыцыны таксама агаляла людскія пакуты.

Дарэчы, медыцынская тэма ўрываецца на старонкі першага зборніка — насуперак звыкламу ўспрыманню, пяшчотна, чулліва, кранальна, насуперак смерці ці нават праз смерць, жыццесцвярджальна.

*Чалавек паміраў.*
*Не крычаў.*
*Не чапляўся за рукі ўрачоў.*
*Папрасіў, каб падушку*
*падсунулі пад плячо...*

*Ён адмовіўся ад уколаў*
*І насустрач жыццю, праз боль,*
*Да акна дацягнуўся рукою,*
*Пакарміў з рукі галубоў.*

Шчасце — аддаць сваю кроў іншаму, праз жыццядайную сувязь з сэрца ў сэрца ўратаваць чалавека («Сэрца»). Шчасце — прысутнічаць, удзельнічаць у нараджэнні новага жыцця. Нэлі Тулупава сапраўды пэўны час працавала акушэркай, як жартаваў у прадмове да кнігі «Як павезлі мяне сватаць» Валянцін Блакіт, прыйшла ў літаратуру з бабак-павітух.

*Аганькі за вокнамі палаты.*
*— Муж цябе чакае, паглядзі!*
*Рознага ўзросту ходзяць таты,*
*Томяцца ад крыку парадзіх.*

*Іх ніхто за гэта не асудзіць,*
*Будуць ноч чакаць яны навін...*
*Мо дачка маленькая ў вас будзе*
*Ці кірпаты і крыклівы сын!*

*Будзе ў рот цягнуць усё рукамі,*
*Адбярэш — нахмурыцца,*
*як ты...*
*Знойдзе між чужых цябе вачамі*
*Самы родны, самы залаты.*

*Усміхнецца радасна, як знойдзе,*
*Першы раз матуляй назаве,*
*Зробіць крок, другі, а там —*
*і пойдзе*
*Любы твайму сэрцу чалавек.*

*Дык рыхтуйся, маці,*
*да сустрэчы,*
*Вытры слёзы, родная, з павек...*
*Слухай, свет! Сягоння вечарам*
*Нарадзіўся чалавек.*

Гэта было вельмі ў яе характары — гаварыць голасна, усяму свету. Дзейсная, актыўная і не пазбаўленая ідэалізму натура, яна адчувала вірлівую, неўтаймоўную, як стыхія, энергію («Ланцугі спакою грызу я, / Прачынаецца мой Везувій...») і шукала ёй выйсця, пры гэтым праграмуючы сябе на агульназначнае дзеянне, скіраванае на дабрабыт усяго людства. Так важна здавалася паспець, здолець, аддаць максімум сіл, адчуць сваю прысутнасць і патрэбнасць. Яна імкнулася напаўняць жыццё сэнсам, заклікала заўважаць самае істотнае:

*О, колькі ў нас, людзі,*
*Пяшчоты,*
*Як мёду ў ліпеньскіх*
*Сотах...*
*...*
*А нам усё некалі, некалі...*
*Пасля і аддаць яе некаму...*

Бадай, праграмны ў гэтым сэнсе верш «Добры дзень», эпіграфам да якога сталі газетныя радкі: «Зямлі пагражае некамунікабельнасць»:

*Я прашу вас,*
*Мужы вучоныя,*
*Ад прагнозаў сваіх ачуняйце,*
*Сабярыце сусветны сімпозіум*
*Па міграцыі чуласці.*
*Акальцуйце яе, нібы птушку.*
*Ну, а выніку нам далажыце.*
*Зазвінеў каласок у жыце,*
*Ён расінку, як сонца, гушкае...*
*І хочацца — жыць!*
*Жыць!*
*Жыць!*
*Басанож хадзіць па расе,*
*З васільком у касе.*
*— Людзі!*
*Веру я...*
*Чуеце?*
*Чуеце?*
*У гняздоўі вяртаецца чуласць.*
*Я бягу, іду да людзей.*
*— Добры дзень!*
*— Добры дзень!*

Яе мастацкі свет патрабаваў маральных максімаў, вельмі цвёрдых годных характараў, якія служылі б ідэалам дабра. Такія катэгарычныя імператывы, непахісныя характары актуалізаваліся падчас сацыяльных катаклізмаў — войнаў, рэвалюцый. Таму так ахвотна паэтэса пераўвасаблялася ў вобразы гераічных партызанак, падпольшчыц, рэвалюцыянерак («Бяроза», «Балада кахання»), абіраючы баладу як найбольш адпаведны жанр.

Не абыходзілася без выдаткаў. Зрэдку звонкая інтанацыя станавілася маршавай. Чаго вартая адна назва «Чуеш, камуна?!» ці радкі: «Бо душа ў нас ёсць і — нятленная, / Мы яе называем — Леніным!», у якія нам, сучаснікам, паверыць куды цяжэй, чым, напрыклад, у радзільны дом з вышэйпрацытаванага верша.

Зрэшты, голас яе з часам сцішваўся, станавіўся больш спакойным, роздумным. І разам з тым знікала былая безумоўная вера ў чалавецтва. Паказальна, што ранні верш «Пяшчота» ўвайшоў у зборнік выбранага «Сонца ў хату» ў перапрацаванай рэдакцыі пад назвай «Яблыкам пераспелым...». Аўтарка звяртаецца ўжо не да людзей агулам, заклікаючы іх не хаваць сваёй пяшчоты, а толькі да родных, да ўласнай душы.

Магчыма, лёгкасць, узнёсласць, ідэалізм забірае тое няўмольнае, свінцовае, што завецца жыццёвым досведам. А змена відавочная:



*Жыву апошнім часам*
*Неяк сцішана.*
*Цураюся людзей*
*Задужа ўвішных...*
*Баюся слоў.*
*А памаўчаць не лішне...*

Але не прыйшла абыякавасць. Па-ранейшаму хлёстка, з запалам (і ў гэтым блізкая да панчанкаўскай традыцыі) яна працягвала пісаць пра сацыяльныя праблемы. Па-ранейшаму сэрца было адкрытае людскім трывогам і зямному хараству. Светапогляд заставаўся нязменным, у тым ліку і пантэістычны яго фрагмент, які так натуральна, шчыра выяўляўся ў яе вершах, часам стылізаваных пад народную песню, але найчасцей аўтэнтычных. Повязь з радзімай трымаецца якраз праз гэтую амаль язычніцкую веру ў сваю зямлю, яе сілу. А яшчэ праз памяць роду, найбольш поўна, выразна выяўленую ў творах «Гарывада», «Дабрадзея». Рэальныя асобы, родныя паэтэсы, напрыклад, бабуля Даніліха, успрымаюцца ўзвышанымі, легендарнымі. І парастак, нашчадак іх, мусіць захоўваць традыцыі, простыя і мудрыя запаветы продкаў дзеля супакаення памерлых, працягу роду, дзеля таго, каб не згасла памяць. *«— А чалавек нашто радзіўся? — Для чалавека. — А людзі ўсе? — Мінулае ўспомніць, пераварушыць, благога не паўтарыць, сваю работу зрабіць».*

# Рыцар берасцейскага пісьменства

Ні ў якім разе не прымяншаю ролю Валерыя Гапеева як літаратара, назваўшы яго ў загалоўку рыцарам берасцейскага, а не ўсяго беларускага сучаснага пісьменства. Натуральна, як аўтар ён належыць усёй нашай краіне. Але рыцарства яго праяўляецца і ў іншых важных сферах жыцця Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

Клопатаў жа ў суполцы хапае: тут і мерапрыемствы розныя, дзе так патрэбна аўтарытэтнае і ўзважанае слова прафесіянала, неабыякавага, сумленнага чалавека, і сустрэчы з чытачамі, і напаўненне сайта. Апошняе зазвычай мусіць аплачвацца, але Валерый, нягледзячы на сённяшнюю камерцыялізаваную эпоху, тым не менш выконвае складаную, падуладную толькі высокакваліфікаванаму спецыялісту працу на грамадскіх пачатках. І выконвае яе вось ужо амаль шэсць гадоў. Тым самым, акрамя ўсяго іншага, аддае пісьменніцкай арганізацыі яшчэ і частку свайго часу, які цяпер «на вагу золата» і якога самому бракуе на літаратурную творчасць.

Чаму так робіць? Асабіста я адказваю на гэтае пытанне так, як пазначыў у загалоўку: бо дух рыцарства ў ім не менш моцны, чым дух літаратурны. Прычым, рыцарства тут (ды і ўвогуле) атаясамліваю з уменнем быць верным у сяброўстве.

Мая першая сустрэча з Валерыем Гапеевым адбылася ў пачатку 2006-га — года заснавання Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ. Аказваецца, да гэтага больш як дзясятак год мы былі знаёмыя завочна. Я працаваў у часопісе маладых літаратараў Беларусі «Першацвет», дзе курыраваў Брэсцкую, Гродзенскую ды Гомельскую вобласці, а Валерый у тым жа выданні друкаваўся.

У 2002 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» выйшла яго першая кніга «Пастка на рыцара» пра падлеткаў-старшакласнікаў (падлеткавая тэма станецца для яго цэнтральнай на гады і, дай бог, на дзесяцігоддзі). На вялікі жаль, толькі пасля заснавання абласной пісьменніцкай суполкі асабіста пазнаёміўся з аўтарам, а таксама з яго кнігай. Уразіла. Таму, даведаўшыся пазней, што яе ніхто не заўважыў ані ў вобласці, ані ў Мінску, вельмі здзівіўся.

**Валерый Гапееў:**
*— Часта пытаюцца, чаму пішу ў асноўным для падлеткаў. Цяжка адказаць адным сказам. Можа, і таму, што не надта для іх хочуць пісаць. Крыўдна бачыць праз чвэрць стагоддзя ў бібліятэках тыя ж творы беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва, па якіх сам вучыўся. І ў планах на пазашкольнае чытанне — усё тыя ж аўтары. Як быццам час спыніўся. Ці літаратура спынілася. Тая ж ідэалогія, тыя ж прынцыпы і тая ж вера...*
*Яшчэ цвёрда перакананы, што няма дзіцячых праблем. Ёсць праблемы ў нашых дзяцей. І яны перажываюцца імі настолькі ж балюча, як і мы перажываем свае. Гэта і хачу данесці да чытача: і юнага, і сталага.*

Тым часам старшыня абласнога выканаўчага камітэта К. Сумар у 2007-м падпісвае Палажэнне аб прысуджэнні літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка. І ў тым жа годзе Валерый Гапееў разам з Валерыем Грышкаўцом першымі атрымліваюць гэтыя прэміі.

Як ініцыятар узнагароды і старшыня савета па яе прысуджэнні я радаваўся, што годная кніга нарэшце прыкмечана і адзначана, а аўтар атрымаў стымул для далейшай творчасці.

Як з рога, «пасыпаліся» з-пад таленавітага пяра Валерыя Гапеева творы: «Лёшкава каханне», «Развітальная вячэра», «Казка-версія аб голай Праўдзе», «Ведзьміна тоня», «Доказ закона прыгажосці», «Трафік для паэта»...

Следам і кнігі пачалі з'яўляцца: «Урокі першага кахання» («Літаратура і Мастацтва», 2010, аповесці для старэйшага школьнага ўзросту); «Ведзьміна тоня» («Мастацкая літаратура», 2012, аповесць для падлеткаў).

Актыўна друкуецца Гапееў і ў калектыўных зборніках, куды яго запрашаюць выдаўцы як аднаго з самых цікавых і адметных аўтараў, дзякуючы якім усёй кнізе забяспечана папулярнасць. З іх найбольш самавітыя «Самотная зорка Венера» і «Закаханы ў Снягурку» (абодва, як паказаў час, вельмі ўдалыя праекты сталічнага выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

**Валерый Грышкавец:**
*— Валерый Гапееў сёння адзін з нешматлікіх пісьменнікаў краіны, што пішуць для падлеткаў і юнакоў. Яго кнігі «Пастка на рыцара» і «Урокі першага кахання» сталі свайго роду бестселерамі айчыннай літаратуры. Аповесці і апавяданні В. Гапеева з зайздросным пастаянствам з'яўляюцца на старонках самых вядомых беларускіх выданняў — у часопісах «Маладосць», «Полымя», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Упэўнены: пісаць для юнага чытача — справа вельмі складаная і сур`ёзная. Тут мала мець талент пісьменніка, патрэбен і талент тонкага псіхолага, педагога, а яшчэ... вельмі добрага чалавека.*

Нарэшце, летась яго клопатамі выйшла кніга вершаў і эсэ Анатоля Галушкі з в. Магіліцы Івацэвіцкага раёна, які да гэтага быў вядомы як мастак, прычым, незвычайны — маляваў карціны, трымаючы пэндзаль зубамі, бо рукі паралізаваныя. І з яго ж удзелам таксама летась выйшла яшчэ адна кніга — «Населеныя пункты Івацэвіччыны».

Вось такі выдатны плён. Трэба дадаць, што кнігі В. Гапеева не толькі добра раскупляюцца ў кнігарнях, не толькі не залежваюцца ў бібліятэках (пастаянна на руках у юных чытачоў), але і чытаюцца падлеткамі праз інтэрнэт.

# Педагагічныя навацыі

Калісьці, у далёкім 1953 годзе, беларускі алфавіт і граматыку я вывучаў па «Буквары», складзеным Надзеяй Сіўко (у суаўтарстве з З. Ліхачовай), а ён у школах рэспублікі пратрымаўся цэлую эпоху — амаль 40 гадоў. Цікава, што сама аўтар першага дзіцячага падручніка была родам з Расіі (сяло Акшына Пензенскай вобласці), але свой талент і багаты педагагічны вопыт аддала навучанню і выхаванню беларускіх дзяцей — працавала ў вясковых школах, была інспектарам-метадыстам Міністэрства асветы БССР.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

«Буквар» Н. Сіўко з прывабнымі, няхай сабе і чорна-белымі, малюнкамі на цэлыя дзесяцігоддзі стаў галоўнай кнігай першакласнікаў, ён добра помніцца мне і цяпер, ужо ў сталым узросце. Вось, напрыклад, як мы вывучалі тую ж літару «Б». «Бі, Барыс, у барабан». «Біў Барыс у барабан». «Барыс: бам-бам!» «Барабан: бум-бум!» Што тут скажаш: лёгка і запамінальна. Такія ж прыклады заслужаная настаўніца Надзея Сіўко змагла падабраць да кожнай літары беларускага алфавіта. ...Ішоў час, мянялася жыццё, няўхільна ўдасканальвалася педагагічная думка, і аднойчы ўзнікла пытанне: ранейшы «Буквар» па многіх пазіцыях састарэў і патрабуе замены. За сацыяльна-педагагічны заказ — стварыць галоўную кнігу першакласніка — узяўся самабытны пісьменнік, перакладчык і мовазнавец Анатоль Клышка. Невядома, колькі высілкаў каштавала яму гэтая нялёгкая праца, але ўжо ў верасні 1969 года на партах у пачатковых класах ляжаў новенькі дыхтоўна выдадзены «Буквар», напісаны, як высветлілася пазней, на ўзроўні сусветных стандартаў. Колькасць цёплых водгукаў на педагагічную навінку не спыняецца і цяпер, праз 34 гады.

Зразумела, знаёміць чытачоў «ЛіМа» з педагогам-наватарам, заслужаным работнікам культуры Беларусі ніяк не выпадае — хто не ведае гэтае імя! А яшчэ за апошнія дзесяцігоддзі Анатоль Клышка атрымаў вядомасць як распрацоўшчык і аўтар кнігакамплектаў («Буквар», «Пропісь 1» і «Пропісь 2», «Пісьмо») для навучэнцаў 1-га класа. Істотная дэталь. Настаўнікі базавай школы і іх кемлівыя вучні, канечне ж, заўважылі, што пачынаючы з 2000 года ў букварах А. Клышкі апрабоўваецца новая методыка засваення граматы. Загадкі, скорагаворкі, займальныя практыкаванні дапамагаюць дзецям глыбока вывучаць матэрыял, развіваць памяць, здольнасць думаць. Пра нечаканыя магчымасці мовазнаўства сведчаць і новыя вучэбныя выданні гэтага слыннага педагога, у прыватнасці, наглядны дапаможнік «Чую, бачу, гавару» і арыгінальны зборнік «Прыгаршчы языкаломак», якія выйшлі з друку летась, у разгар навучальнага сезона, і адразу звярнулі на сябе ўвагу настаўнікаў і бацькоў.

Кніга «Чую, бачу, гавару» ўяўляе сабой ілюстраваны слоўнік беларускай мовы для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Пабачыў свет ён у выдавецтве «Асар» як вучэбны наглядны дапаможнік, і, трэба сказаць, гэта яго другое, перапрацаванае выданне, а за першае яшчэ ў 2004 годзе дапаможніку быў прысуджаны дыплом па выніках XLIV рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі». Заслуга ў гэтым мастакоў М. Казлова і Н. Суставай, якія з улікам практычнага досведу лепшых замежных выданняў падобнага тыпу ілюстравалі кнігу. Зноў жа, для подпісаў пад малюнкамі аўтар выкарыстаў радкі з вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Андрэя Александровіча, Адама Русака, многіх сучасных паэтаў.




Тлумачэнне і заснаванне матэрыялу даецца не толькі праз малюнак, але і праз слова, праз яго жыццё ў сказе. Дапаможнік ахоплівае найбольш ужывальную, тэматычна згрупаваную лексіку, якая адлюстроўвае навакольны і ўнутраны свет дзіцяці. Пазнаёміўшыся са зместам, можна налічыць амаль семдзесят такіх слоўных груп — прыклады ёсць практычна на ўсе выпадкі жыцця. На кожнай старонцы побач з выдатнымі малюнкамі — зіхоткі россып знаёмых і незнаёмых родных слоў. У невялікай вітальнай прадмоўцы Анатоль Клышка справядліва заўважае: «Гэтыя словы — ад нашых прадзедаў і прабабак, дзядоў і бабуль, бацькоў і матуль, на іх цяпло вуснаў нашых продкаў. Яны як пацалунак тых, каго ты ніколі не ўбачыш. Смакуй гэтыя словы, цешся імі, дзяліся з сябрамі, каб родная мова, беларуская мова, гучала з краю ў край, у вёсцы і ў гарадах, на ўсёй Беларусі».




Увесь лексічны матэрыял вучэбнага дапаможніка, што спатрэбіцца настаўніку пры тлумачэнні тых ці іншых параграфаў «Буквара», размеркаваны, як ужо гаварылася, па тэматычных групах, і сярод іх ёсць зусім нечаканыя. Назавём толькі асобныя тэмы: «Дом», «Кухня», «У ваннай», «Будзь ветлівым», «Гасцёўня», «Пошта», «Кім ты будзеш», «У садзе», «У тэатры», «Талака», «Купалле», «Вялікдзень», «Новы год». Усе разам — сапраўдная маленькая дзіцячая энцыклапедыя. Сказы падабраны аўтарам так, каб тое ці іншае словазлучэнне чыталася выразна і каб у ім гучалі трапны досціп, гумар, здзіўленне, жаданне і радасць жыць сярод рэчаў, адлюстраваных на малюнках. У канцы кнігі змешчаны даволі значны па аб’ёме «Наш слоўнічак», з указаннем націску на патрэбным складзе, каб дзеткі ўжо тут, у класе, маглі правільна, без памылак размаўляць з настаўнікам і паміж сабой па-беларуску. Да такой шчырай, сяброўскай гутаркі, здаецца, запрашае і сама кідкая назва прыгожай, насычанай цікавай інфармацыяй кнігі — «Чую, бачу, гавару». Не засмучае, а радуе наклад карыснага выдання — 5 тысяч асобнікаў, што ў наш скупаваты на падарункі час не так ужо і мала.

Другая творчая ўдача беларускага букварыста Анатоля Клышкі — зборнік «Прыгаршчы языкаломак». У ім усяго толькі 31 старонка, але кніжная навінка — наватарская па сваёй сутнасці, можна нават сказаць — з добра заўважнымі прыкметамі эксперымента, што сярод педагогаў-практыкаў заўсёды высока цэніцца. Зборнік выйшаў у выдавецтве «Народная асвета», і таксама немалым накладам — 3 тысячы асобнікаў. Заслуга аўтара ў тым, што ён падрыхтаваў нізку цяжкаватых для вымаўлення словазлучэнняў на ўсе гукі беларускай мовы — чытаючы іх, дзеці адчуюць смак роднага слова, пашыраць межы сваёй фантазіі, на канкрэтных і цікавых прыкладах яны будуць вучыцца правільна вымаўляць гукі і літары.

«Языкаломкі... Яны, як той казаў, язык не паламаюць, але што ж гэта за надзвычайныя і, прычым, і дужа прыцягальныя словазлучэнні? — з усмешкай апавядае шаноўны Анатоль Канстанцінавіч — аўтар з вялікім педагагічным стажам. — Некаторыя калегі называюць творы гэтага жанру па-руску — скорагаворкі. Іншыя ж, напрыклад, Рыгор Барадулін, па-ўкраінску: хуткамоўкі. А мне здаецца, па-беларуску няблага называць іх языкаломкі. Ёсць жа па суседству яшчэ і галаваломкі. Пад назваю языкаломкі я змясціў некалькі іх у сваіх падручніках. Бачу, мяне падтрымаў Васіль Жуковіч: у друку з’явіліся яго языкаломкі...

Дык вось парупілася мне падрыхтаваць асобны зборнічак языкаломак — амаль на ўсе гукі нашай мовы. Падштурхнула да працы і мая праўнучка Мая. Гадоў у чатыры яна ўзмоцнена сама сабе паўтарала словы з гукам «р», які ў яе не вельмі выходзіў. Я чуў, як яна настойліва падбірае адпаведныя словы. Чаму ж было не дапамагчы дзецям, падабраўшы патрэбны гукарад?»

Пагартаем і мы гэты невялікі зборнічак з дзіцячымі шчаслівымі тварыкамі на блакітнага колеру вокладцы: у рэшце рэшт, цікава, што ж атрымалася ў аўтара? Мяркую, гарэзлівыя хлопчыкі і дзяўчынкі не засумуюць — сапраўды цікава! Многія свае языкаломкі Анатоль Клышка падае ў выглядзе загадак, шмат самабытных словазлучэнняў рыфмуецца, як, напрыклад: «На радню наш збан багач — гляк, гаршчок, гладыш, гарлач». Некаторы, дужа сакавіты, гукападбор, здаецца, можна нават паспрабаваць на зуб, прабачце, на язык, бо гэта ж языкаломкі:

*На, Грыша, грошы на грушы.*
*Усып у суп крыху кропу і круп.*
*Ад ветру парэчкі ўсчалі сваркі і спрэчкі.*
*Арэшкі ў арэшніку, а не ў алешніку.*
*Аладка і паўаладкі — паўтары аладкі.*
*Гурочкі — у бочкі, а грыбочкі —*
*на шнурочкі.*
*Маня маліну ламала,*
*але мала наламала.*

На заключэнне хацелася б адзначыць яшчэ адну істотную асаблівасць творчых педагагічных навацый Анатоля Клышкі. Як у вучэбным наглядным дапаможніку «Чую, бачу, гавару», так і ў зборніку «Прыгаршчы языкаломак» багата прыкладаў і тлумачэнняў да малюнкаў падаецца з вялікім досціпам і гумарам, а ім аўтар валодае, як мне здаецца, бездакорна і надзвычай тактоўна.

# Навошта ехаць на чужыну?

Як чытач я заўсёды радуюся новым творам Міхася Южыка — і ў прозе, і ў паэзіі, і ў крытыцы. Пасля анонсаў у літаратурных часопісах пра новую аповесць ці раман гэтага таленавітага пісьменніка з нецярплівасцю чакаю публікацыі.

**Міхась СЛІВА**

Многія героі твораў Міхася Южыка, калі можна так сказаць, уцягнутыя ў багну грамадства спажывання, якое становіцца ўсё больш агрэсіўным, падаўляе свядомасць сучаснага чалавека. Пісьменнік часта вызначае нейкую экстрэмальную сітуацыю ў адносінах людзей і псіхалагічна дэталёва даследуе яе. Яго станоўчыя героі ўмеюць браць і бяруць адказнасць і віну на сябе. Можа, нават занадта. У творах Міхася Южыка сям’я — таксама поле бітвы. Бітвы паміж дабром і злом, сумленнасцю і здрадай, праўдай і хлуснёй, справядлівасцю і знявагай.

Вось і ў аповесці «Хто там, за дзвярыма?» («Маладосць», № 4, 2012) у полі зроку пісьменніка таксама сям’я. Жонка з усіх сіл стараецца дагадзіць мужу, даглядае яго, як малое дзіця. Многія мужчыны не адмовіліся б ад такога, але ж галоўнаму герою Антону непрыемны такі празмерны клопат. А ўсё таму, што ён не кахае жонку. Дык навошта няволіць сябе? Шлюб — не прыгоннае права! А тут яшчэ жонка зрабіла аборт, у яе паводзінах сталі заўважацца адхіленні ад нормы. З цягам часу і сам Антон стаў дрэнна сябе пачуваць псіхічна, яго пачаў праследаваць цесць...

У канцы твора галоўны герой па волі аўтара трапляе ў ЗША, дзе сустракае добрую жанчыну, з якой чакае сына. Ён быццам бы знаходзіць душэўнае супакаенне.

І вось тут хочацца задаць пытанне: а ці абавязкова трэба было Антону ехаць у далёкую Амерыку, калі можна было пераехаць у іншы горад ці проста мікрараён? Мяркую, у такога героя, як Антон, на чужыне з’явіцца новая хвароба, яшчэ больш каварная, чым нялюбая жонка, — настальгія па Радзіме.

Гэтыя радкі я напісаў вясной 2012 года для сябе. І вось у 12-м нумары часопіса «Полымя» за 2012 год з’явілася новая аповесць Міхася Южыка «Калыханка». Аўтар нібыта пачуў мае думкі: галоўны герой яго новага твора не ўцякае за мяжу ад сваёй дэспатычнай жонкі, якую «кахае-ненавідзіць», а лечыць душэўны боль у родным горадзе, схаваўшыся ад сям’і і падначаленых у нанятай па аб’яве кватэры.

Пісьменнік малюе праявы негатыўных якасцей чалавечай натуры ў сучасных умовах, цяжкасці, з якімі сустракаюцца людзі, калі духоўнае адыходзіць на другі план, а галоўным становіцца нажыва, матэрыяльнае багацце. Па-мойму, Міхась Южык знайшоў і паказаў чытачам правільны шлях, адзіны паратунак ад душэўнага гора — зварот да родных вытокаў, да маці, да яе калыханкі.

А цяпер давайце задумаемся: а ці многія сучасныя маці спяваюць (ці хоць бы даюць магчымасць паслухаць з дапамогай тэхнікі) свайму дзіцяці калыханку? Адказ зразумелы. Таму і трывожыць, чым жа будуць лячыць свае душы новыя пакаленні...

**Абу Абдалах Рудакі — заснавальнік класічнай персідскай паэзіі. З яго літаратурнай спадчыны да нас дайшло каля тысячы двувершаў, урыўкі з паэм, цалкам захавалася касыда «Маці віна» (933), аўтабіяграфічны твор «Скарга на старасць», а таксама каля 40 рубаі. Просты стыль, зразумеласць і прачутасць вобразнага шэрагу паэзіі Рудакі дазволілі яму стварыць уласны стылёвы кірунак, які праіснаваў да XII стагоддзя.**

# РУДАКІ
**(858 — 941)**

* * *

Усё, што творыць свет, —
падобна сну дурному.
Ды толькі свет не спіць, — у дзеянні свядомым.
У тым, дзе спее зло, сваё дабро ён бачыць,
Ён радуецца там, дзе грозіць скон жывому.
Дык ты чаму на свет глядзіш зусім спакойна?
Спакою не сустрэць ва ўсіх ягоных дзеях.
Яго прасветлы твар, але ў душы чарнеча,
Хоць і прыгожы свет, ды зло адно і сее.

* * *

Па струнах Рудакі правёў рукой,
Згадаў ён аб сяброўцы дарагой.
Рубін віна — расплаўлены рубін,
Да вуснаў ён падобны пекнатой.
Першаснова ўсё ж у іх адна:
Расплавіўся рубін, а цвёрдым быў.
У рукі ўзяў — і пальцы апякло,
Прыгубіў — і навек спакой згубіў.

* * *

Як табе не апастыла
ў кожным бліжнім бачыць скнару,
Быць сляпым і безуважным
да людскіх бязлікіх бед!
З сэрца скваппасць прагані ты,
не чакай ад свету многа,
І тады надзвычай шчодрым
і табе падасца свет.

* * *

Цвітуць наноў сады, лугі, паляны.
І квецені паўсюд настой духмяны.
З зімою разам дагарэлі дровы,
Цяпер палаюць чырванню цюльпаны.

* * *

Займееш год няхай і надта многа, —
Ды прыйдзе смерць, няма канца другога.
Завяжацца пятлёй жыцця вяроўка, —
Такі ён, лёс, на жаль, быцця зямнога.
Жывеш спакойна, радасна, ў раскошы
Або спазнаеш цяжбы веку злога,
Зямлі ўладар ад Рэя да Тараза
Або кутка глухотнага малога, —
Усё жыццё тваё, як сон імгненны,
А сыдзе сон, і ўжо няма нічога.
У дзень смяротны станеш безуважным
І не адрозніш мудрасць ад благога.
Пяшчота ёсць акраса толькі юных,
І ты яе аснова — цень былога!

* * *

Налі таго віна, што,
калі капне ў Ніл,
Дык п'яным цэлы век
прабудзе кракадзіл,
А калі віп'е лань,
то стане грозным львом,
Перад якім і тыгр дрыжыць
з астатніх сіл.

* * *

Маланкі выблісне усмешка,
то гром заплача над зямлёй,
Як маці аб дачцэ памерлай,
што ззяла юнаю красой.
Вярбы срабрыстая галінка
ужо умытая слязой,
А счырванелыя цюльпаны
ужо аплаканы расой.

* * *

Як ні лагодзь змяю,
не стане меней лютай, —
Яна ўсё ж зашыпіць і джыгане атрутай.
Нікчэмны —
ён павек нікчэмным застаецца,
З абрыдлым не сябруй —
сустрэнешся з пакутай.

* * *

Нашто на сябра крыўдаваць?
Мінецца крыўда скора,
Жыццё такое: сёння — радасць,
а заўтра — боль і гора.
Бо сябра крыўда — і не крыўда,
не сорам, не знявага;
Ён усміхнецца пры сустрэчы —
святлом душу азорыць.

* * *

Няўжо адна благая справа мацней
за сто выключных?
А з-за калючак пышнай ружы
не слыць як лепшай кветцы?
Няўжо шукаць каханак новых
павінны мы штодзённа?
Крыўдуе сябар? Павініся,
не знойдзеш сэнсу ў спрэчцы!

* * *

Як толькі ветрык з Бухары мчыць
да мяне аблогай, —
Язміну ажывае пах і мускусу начнога.
Усклікнуць жонкі і мужы:
«Дзьме ветрычак з Хатана,
Пяшчоту свежую прынёс буяння маладога!»
О не, з Хатана больш ужо такі не вее вецер,
Ён ад каханай прыляцеў, адтуль яго дарога.
У сне мы побач,
быццам мы сціскаем моцна пальцы,
Наяве ж —
як далёка ты, у схованках дня былога.
Мы ведаем:
свята Сухейль ліе з начнога неба,
Цябе шукаю, зорка, зноў, зірні з вышыняў бога!

О мой кумір, я ад людзей імя тваё хаваю,
Не для натоўпу ўсё ж яно,
не для суда людскога.
Ды варта слова мне сказаць —
хачу ці не хачу я:
Як запаветнае імя, не трэба мне другога.

* * *

Хоць і рассталіся з табой,
спазнаў пакутнае чаканне,
Пакута — радасць,
калі ў ёй спаткацца тоіцца жаданне.
Я разважаю па начах, шчаслівы? —
у сябе пытаю.
Калі такая ростань з ёй,
тады якім было б спатканне?!

* * *

Тады згадаюць пра мяне,
калі сустрэнуцца з бядой,
Ды ліхаманка пра мяне падчас спытае
з цяплынёй.
Як смага здолее скарыць,
дык вока толькі і ўсяго
Сумее ўдосталь напаіць
салёнай, горкаю вадой.

* * *

Калі ў яе распусціш косы —
спадзе наўкруг імгла,
Растрэплеш іх —
убачыш кіпці магутнага арла,
Калі ж вузельчыкі развяжаш,
развяжаш завіткі,
Дык скажаш,
што сяброўка мускус таразскі разліла.

* * *

Шумяць сады — не думай пра плады,
Бо толькі вербы ўквецілі сады.
Прыйшоў садоўнік. Сцеражыся зноў!
Прайдзі як вецер, знікні назаўжды.

**Пераклад з таджыкскай Міколы Мятліцкага**



Юрый ФАТНЕЎ

# Высокае неба паэзіі

**Быць ці не лепшым паэтам, адчуваць і нават ведаць гэта і быць для чытачоў амаль невядомым... 10 лютага спаўняецца 75 гадоў таленавітаму паэту сучаснасці Юрыю Фатневу. Так сталася, што большая частка жыцця рускага (падкрэсліваю, менавіта рускага па нараджэнні і па духу, а не рускамоўнага) паэта звязана з Беларуссю, якую ён любіць аддана і светла і якой прысвечана нямала ўзнёслых радкоў. Чытаеш Ю. Фатнева — і часта ловіш сябе на думцы: як высока неба ягонай паэзіі... Многім не дацягнуцца, не даляцець... Юрый Фатнеў — паэт выключнай лірычнай і эмацыянальнай сілы. Пранізлівасць і меладычнасць, шчырасць і безаглядная смеласць, праўдзівасць і адкрытасць — вызначальныя рысы ягонай творчасці. Пры гэтым дыяпазон выяўленчых сродкаў на дзіва вельмі шырокі: ад мяккай сонечна-празрыстай акварэльнасці імпрэсіянізму да грубых мазкоў кантрасна-жорсткага экспрэсіянізму...**

**Міхась БАШЛАКОЎ**

* * *

Язычніцкая ноч, мяне ты захіні!
Не бойся мне ў душу святло сваё рассыпаць!
Паблізу Мазыра — агні, агні, агні...
Але няма цяпла: сягоння стане Прыпяць.

Багі ўсе ажылі славянскія. Вунь рог
У сценку грымнуў як! —
То бог жывёльны Велес.
Нікога не відаць. Ды мроіцца Стрыбог:
Захутаны ў снягі, нясе счарнелы верас.

Брэх чуецца сабак. Парушыў хто спакой?
Хто золатам агнёў абвераснёвіў далі?
Ці мо святло ад фар успыхвае дугой,
Ці, можа, Прыпяць рве дзівосныя каралі?

Жыццё мяне не раз, як кажуць, б'е пад дых,
І нават гэта ноч адхлання не прынесла.
Хаця б адзін пагляд, адзін нясмелы ўздых —
Такі, каб ад яго душа мая ўваскрэсла.

Яна ж, яна ж заўжды імкнула з берагоў,
У рэчышча ніяк вярнуцца не бяруся.
Без ворагаў не жыў. Не жыў і без багоў.
Я волю сніў штоноч. І волю зваў я Руссю.

Язычніцкая ноч, мяне ты захіні.
Прасіў цябе не раз: ты адвядзі жалобу.
Салодка песціў я падораныя сны,
Але вяртаў мяне з той мройнасці Чарнобыль.

Без ворагаў не жыў. Не жыў і без багоў.
Я ведаў, што з сядла мяне няпроста выбіць.
Заўжды мая душа імкнула з берагоў.
Мне страшна за яе: сягоння стане Прыпяць.

## Шапэн

Туды, канечне, так хацеў і я,
Дзе, чужаку, рабіць мне быццам нечага
Ў той час, калі тварыў Дэлакруа
І Энгр браў скрыпку нейк зімовым вечарам.

Зіма ў Парыж знянацку забрыла,
І кляў Шапэн надвор'е нехлямяжае.
Нібыта ў плед, захутваўся штодня
У музыкі дзівосныя адажыа.

Каля слядоў каціных ён ішоў.
«Ну й графіка!» — дзівіўся непадкуплена.
Снег таяў на палях капелюшоў —
І кропелькі зрываліся разгублена.

А ў доме Энгра свечак мільгата,
Плячэй жаночых ззянне ў промнях месяца.
І толькі Польшчы не хапала там:
Вароны на даўно пахілых весніцах,

Стажка на полі, гаўканне сабак,
Выцця ваўка далёкага, захатняга.
Аднак было ўсё тут цудоўна так,
Што можна абысціся без астатняга...

Шапэн, відаць, хацеў бы, як і я,
Туды, дзе лёсу гучная сімфонія.
Ды дзесьці тут жыве Дэлакруа
І ў доме Энгра — музыкі агонія.

* * *

Я Клевера люблю. Браты па духу, можа, мы?
Я помню: у яго карціна ёсць адна.
Дарога. Восень. Даль,
і ў ёй так устрывожана
Балбоча, нібы чмель, гітарная струна.

А ўздоўж дарогі той бярозы раскудлачаны,
І лісце ўсё ляціць за брычкаю наўслед.
Здаецца мне, што я, расстаўшыся з удачаю,
Тут толькі што прамчаў
у свой нябліскі свет.

Стары я ўжо. Сівы. Хай не дзяўчыну бойкую —
Адно кляновы ліст прыцісну да грудзей.
Мая ты маладосць!
Прамчалася, як тройкаю,
І тую брычку я прыгадваю радзей.

Ліст падаў доўга так. І я глядзеў
разгублена.
Не думаў — гэта я спрабоўваю крыло.
Не думаў — у жыцці даўным-даўно
ўсё згублена:
Праехаў я, на жаль, свой домік, дзе цяпло.
Хоць мастаком не стаў салонным
ды заможным я,
Не глянулася вам карціна ні адна,
Ды, можа быць, усё ж у нейкай з іх
стрывожана
Заплакала наўзрыд і лопнула струна.

## Бусліная Мека

Лясныя вёскі — дзён мінулых рэха —
Рассыпаны, як добрыя грыбы.
А для буслоў-паломнікаў тут Мека:
Ад гнёздаў іх аж свецяцца дубы!

А як зарана з поўдня прыкрыляюць,
Прымусіць сцюжа крылы апусціць.
Рукамі з даху дзеці іх здымаюць
І ў дом нясуць сагрэць і накарміць.

А бусел, штосьць адведаўшы у місцы,
Клякоча каля печкі дацямна.
І слоўца бусланогае ў калысцы
Дзіця ляпеча... Позняя вясна...

Сняжынкі апускаюцца на гурбы,
А бусел, не выходзячы з сяней,
Клюе з вядра разварыстую бульбу,
Якую згатавалі для свіней.

Ды ўсё-ткі ён сумуе штохвіліны,
Сваёй — прыроднай — верачы вясне.
Аднойчы ў дзверы дзюбаю буслінай
Прамень пранікне й неба расхіне.

Прыхільнікі якогась глабалізму
Ідуць у наступ за вярстой вярста
У жорсткі век сусветных катаклізмаў,
А тут, глядзіш, — да птушкі дабрата.

А ў нашы дні такое рэдка ўбачыш.
Там, дзе дубы над Убарцю гудуць,
Жывуць жа людзі — іх не перайначыш, —
Якія ў крыўду птушак не дадуць.

## Шэрая галубка

Шэра галубка, ізноў да гасцініцы ранiцай
Ты прылятаеш. Не бойся.
Пакуль што не счэз.
Ты забуркуеш — і нібы былое згадаецца,
І праясняюцца Петрыкаў, Тураў, Чачэрск.

Вось дзе тры лёсу майго маякі стуманелыя.
Бачыцца сёння інакш, чым калісь юнаку.
...Ў сполаху-бліску маланак, уся загарэлая,
Скача пад ліўнем дзяўчына ў начным гарадку.

Пасмы валос навальніцаю ўсе раскудлачаны,
Быццам яна пераблытала дні і вякі.
О, як хачу я сягоння на хвілю пабачыцца,
Гладзіць руку і кранацца нясмела шчакі.

Ах, які лівень! Бяжым, як малыя, да ратушы.
Лік яе дзіўны і смех як нябесны ўскалых.
Блузка на ёй ці, мажліва, адны толькі ландышы
Грудзі яе прыкрываюць ад позіркаў злых...

Як яе звалі: Анюткай, Людмілай ці Любкаю?
Мой успамін —
бы з мінулым няпросты двубой.
Стала, напэўна, даўно шэракрылай галубкаю
Тая дзяўчына, што сон мой забрала з сабой.

Пэўна ж, юнацтва на шыю ўжо
болей не кінецца.
Што ж засталося мне: Петрыкаў,
Тураў, Чачэрск...
Шэра галубка, ураніцы зноў да гасцініцы
Ты прылятаеш. Ды тут я.
Пакуль што не счэз...

* * *

Там, дзе рваў я лілеі ў халоднай вадзе,
Снежна-белыя, белыя, белыя,
Мне крумкач пракрычаў:
«Быць бядзе! Быць бядзе!» —
Гэта нам, мая юная, смелая.

Быць бядзе... О, як любіць ахвяры бяда!
Водзіць, водзіць сцяжынай маркотнаю.
Нас зусім не лілеі — брыдота-брыда
Чарадой акружала мярзотнаю...

Мне крумкач пракрычаў:
«Быць бядзе! Быць бядзе!»
Усміхаюся ўслед, бы знямелы, я
Ды зрываю лілеі ў халоднай вадзе
Снежна-белыя, белыя, белыя...

**Пераклад з рускай Міколы Шабовіча**

Ірына ТУЛУПАВА

# Валянцінаў дзень



Уся гэтая гісторыя пачалася ў Дзень Святога Валянціна. Разышліся ў добрыя прыцемкі, а калі назаўтра сустрэліся зноў, аказалася, што іхняга саслужыўца і ўчарашняга імянінніка — нібыта нідзе няма. Ён не выйшаў на працу. Чаму — ніхто не ведаў. Адгулаў не браў, да водпуску было далёка. З іншых варыянтаў заставаўся яшчэ бюлетэнь, які ён мог узяць, раптам захварэўшы. Можа, наглытаўся халоднага паветра па дарозе дадому. Альбо паслізнуўся на ледзяным пагорку і падвярнуў нагу — дапускалі і гэта. Дарога яго далёкая: жыў Валянцін у Рудзенску. І кожны дзень ездзіў на працу на электрычцы.

Каб дазнацца пра лёс маўклівага суседа, што з ім такое магло здарыцца, камандзіравалі да яго Асю. Яна арганізавала пагулянку, цяпер мусіла сама ўсё расблытваць.

Яна ехала ў электрычцы зусім разгубленая. Трэба было знайсці чалавека, адраса якога не ведала. Як аказалася, не ведаў ніхто. Нават у аддзеле кадраў, дзе, здавалася, ведалі ўсё пра ўсіх. Спытацца пра здароўе па тэлефоне таксама не было ў каго. Сяброў Валянцін не меў і свайго мабільніка не завёў: не купляў і ўсё! А ці існаваў у яго хатні тэлефон — ніхто ўцямна сказаць не мог. Яму ніколі не званілі: не ўзнікала патрэбы. Іхні калега — непрыкметны ціхоня, штодзень ездзіў у Мінск здалёк, кватэру ў сталіцы не будаваў, прыбаўку да зарплаты не прасіў, кар'еру не рабіў. Заставалася здагадвацца, чаго толькі ён хадзіў на працу, калі яму нічога не трэба. Відаць, ад таго, што так прынята: недзе працаваць, каб неяк жыць.

І вось цяпер Ася — не прыгажуня, але душа калектыву — мусіла шукаць гэтага цямцюлямцю не дзе-небудзь на службе, а ў яго дома, у гэтай цьмутаракані, куды б у іншы час ні за якія абяцанні не зазірнула.

Ехала на прыгараднай электрычцы: скнара начальніца службовай машыны пашкадавала. «Не паложана!» А адпраўляць за горад маладую дзяўчыну ў зімовую завею — нармальна? Ася злавалася, свае горыч і раздражненне скіроўвала на начальніцу. Натуральна, разважала яна, гэта была адна з праяў яе педагагічных прыёмаў. Яна ўсіх кідала ў багну непрадбачаных сітуацый і глядзела, як калегі з яе выкараскваюцца. Цяпер вучыла жыць «першакласніцу» Асю. «Экзамен» яна мусіла здаць ледзь не экстэрнам: усяго за тры дні. Ішлі апошнія — трэція — суткі пошукаў.

Электрычка спяшалася, везла дзяўчыну далей ад зіхцення гарадскіх агнёў, а разам — і ад асалоды перадвясновых спадзяванняў і шчаслівага няведання, што ў цябе наперадзе. Усе дзявочыя мроі адначасна разбіліся, упалі долу як ледзяшы са страх. Шчасце зноў ад яе аддалілася, засталося недзе там, на пероне, адкуль яна ехала. Дзяўчыну закруціла ў водавароце выпадковых людскіх патокаў па-за вокнамі электрычкі, дзе чалавек не вылучаўся з усіх, станавіўся маленькім, някідкім. Ён крочыў па замерзлых дарогах, высока падняўшы каўнер, хаваючыся ад снегу, ветру, холаду...

Ася хуталася, быццам і ёй у вагоне марозна, адварочвалася ад пасажыраў, каб не ўбачылі слёз. Салёныя раўчукі, пакінуўшы мокры след пад вейкамі, на шчоках, спускаліся па шыі і раставаліся ў цёплым швэдары. Ён уверсе трохі ўжо намок.

Ася плакала ад перажыванняў апошніх дзён. Хвалявалася за Валянціна, дакарала сябе: чаму не прасачыла, каб яго, ап'янелага, у той вечар хто-небудзь праводзіў дадому? Шкадавала: вінаваты Валянцін цяпер яшчэ больш пацішэе. Крыўдавала: хацела зрабіць усё хораша, а ў душы пасля сустрэчы засталася толькі горыч. Непрыемна калола крыўда на калег, якія нічога не зрабілі, каб дапамагчы. А цяпер, можа, хто-небудзь і радаваўся чужому няшчасцю: такую сваю вандроўку Ася, натуральна, запомніць на ўсё жыццё.

...За акном вагона мацнела завіруха: у сярэдзіне лютага зіма на ўсю моц паказвала свой нораў, сцяліла новае покрыва на ўлежныя снежныя сумёты, раўняла неба з зямлёю.



*Малюнак Вікенція Пузанкевіча*

Электрычка апошні раз бразнула жалезнымі коламі, спынілася: Рудзенск. Ася выйшла на невялікі перон, азірнулася. За ёю — след у след — крочыла мажная жанчына. Наспех на хадзе перавязвала хустку, пакідаючы адкрытымі толькі вочы ды бровы.

— Цётачка, а дзе тут Лазоўскія жывуць? — няўпэўненая, поўная сумненняў, Ася знаёмілася з жанчынай, з якой разам выходзілі з электрычкі.

— А што табе да іх? — хустка на галаве надзьмулася, з яе насцярожана вытыркнуў тоўсты вузел. Заснежаныя складкі распраміліся — жанчына аказалася высокага росту. Не паказваючы сваёй збянтэжанасці, тая прыгатавалася наступаць. Калі трэба — абараняцца.

— Ды сын Лазоўскіх — наш супрацоўнік. Трэці дзень на працу не выходзіць. Не ведаем ужо, што і думаць, — ад плачу, які ледзьве спыніла, Ася гаварыла ціха і невыразна. Гаварылася цяжка.

— Так ты, міленькая, з Валянцінам працуеш? — У хустцы пацяплела, пачуўся прыветны, ласкава-пяшчотны, як у маці, голас: — То я ж і ёсць Лазоўская. Марыяй Ільінічнай клічуць.

Асіны бровы паволі падняліся, і так, у здзіўленні, і замерзлі на абветраным тварыку: «Так не бывае!» Думала, кружляць ёй па Рудзенску, грукаціца-не дагрукацца ў замкнёныя чужыя дзверы. А тут — першы чалавек, да якога звярнулася па дапамогу, і ёсць самы патрэбны! Ёсць-такі справядлівасць на свеце!

— Хадзем, мая харошая, удваіх ісці лягчэй. — Марыя Ільінічна ўхапіла дзяўчыну пад руку. — Бач, што на дварэ робіца!

Снег удалечыні яшчэ пабольшаў, загусцеў.

— А з Валянцінам-та што? — усё яшчэ не верыла ў зімовы цуд Ася. Па дарозе да хаты яна цвёрда рашыла даведацца пра суседа як мага больш. Праўда, якая б горкая яна ні была, усё-такі лепш, чым маўчанне.

— А што Валянцін? Жар у яго!

Ася амаль і не заўважыла, як кемлівая жанчына пераняла гаворку на блізкае ёй. Цяпер тая распытвала, Ася мусіла адказваць, ды яшчэ і апраўдвацца. Жанчына не верыла, што да яе сына прыехала проста калега. Саслужывіца, якую цікавіць толькі здароўе Валянціна. І ніякіх іншых прычын тут не знайсці.

— А ты хіба з Валянцінам у адным кабінеце сядзіш? Красуня мая!

«Мо думае, я нявесткаю для яе стану?» — Нечаканая здагадка заінтрыгавала. Пра Валянціна-жаніха Ася ніколі не мроіла. Вельмі розныя яны ва ўсім.

— Не так жа проста ты да нас ехала, грошы траціла!

Відаць, жанчына яе адобрыла. І паглядам ухваліла. Цяпер вось пра гаспадарку расказваць пачала. Нахвальвае сынка, а сама заглядвае ў вочы: ці ўсё пачула? Усё, мая дарагая жанчына. Але ўкаранелы халасцяк пра жаніцьбу ніколі не загаворыць. Гэтая скупая і ясная тэма паўтараецца зноў і зноў толькі ў яго блізкім атачэнні. Чарговым яе паваротам Асіна прысутнасць у незнаёмым і чужым доме не стане.

— Злосная я на вашага Валянціна. З-за яго вунь куды ехаць давялося!

— То хіба ж далёка? Наш Валік кожны дзень ездзіць — не стамляецца! Ды ў сталіцу перасяляцца не збіраецца! — Марыя Ільінічна прыкусіла язык. Відаць, лішняе сказала, ды позна спахапілася. Ася ўсміхнулася: напэўна, гаспадыня дома прывыкла ўжо да «нявесткі».

А дзіўна было б, калі б яна, і праўда, закахалася ў Валянціна. Ён нават чымсьці лепшы за маладых і прабіўных калег, але колькі лішняга клопату нарабіў! «Хіба ў мяне свайго мала? У вялікім горадзе — вялікія праблемы». Так што зусім дарэмна Марыя Ільінічна скумекала, быццам Ася толькі пра жыццё ў сталіцы марыць.

— А ты, міленькая, сама з Мінска ці яшчэ адкуль?

—З Мінска. Гараджанка я.

— А! Ну то добра! Дык калі ты захочаш, красуня, мы вам хату і ў Мінску пабудуем! Грошы ж усё жыццё збіралі!

— Каму нам? — абурылася дзяўчына. — Жаніх у мяне ёсць. А Валянцін ваш пазваніць мог, я б не ехала сюды, не мерзла...

Падышлі да хаты, на парозе моцна патупалі: Ася — каб асыпаўся з ног снег, Марыя Ільінічна — каб Валік пачуў і прыбраўся. Увайшлі... Даўгавязы злыдзень! Ён, і праўда, ляжаў у ложку, а перад ім гаманіў тэлевізар! Атрымліваецца, што калегі пра яго непакояцца, а ён сярод дня адпачывае! Такія паводзіны Ася палічыла бястактнымі.

— Мая ты красуня, бачыш, стаміўся сынок без справы. Вось і тэлевізар уключыў, каб не сумаваць. А ўвесь дзень тэмпературыў!

— І цяпер яшчэ трыццаць сем і восем, — здзіўлены Валянцін не разумеў, навошта тут Ася. Яго вялікія рукі раскінуліся на коўдры, яны далёка вылазілі з рукавоў піжамы. У хатнім калега падаваўся яшчэ больш нязграбным і безабаронным. Яго хацелася шкадаваць.

— А на працы не спрабаваў аб'явіцца? — гаварыла ўсё яшчэ з'едліва, але не зласліва. Марна-такі сюды ехала. Усё марна. Неразумна і бессэнсоўна. Акрамя навукі, якую ёй пры выпадку паказала начальніца. Не арганізоўвай нічога — не будзе і непатрэбных клопатаў.

— Як аб'явіцца? З прастудай? — насычана блакітныя, амаль сінія вочы свяціліся чысцінёй, вабілі таямнічасцю. Не той, што ўнутры, у душы іх гаспадара, а той, якую ён цяпер вельмі хутка хацеў прыхаваць ад госці.

— Па тэлефоне хвароба не перадаецца! — прыняла выклік дзяўчына. Яе настрой мяняўся імгненна, яна блыталася, спрабуючы ў нечым пераканаць Валянціна, разумела, што гаворыць пра ўсё ўрыўкамі, нелагічна, то спрабуе яго папракаць, то выхоўвае, як выкладчыца легкадумнага студэнта, то імкнецца выклікаць у яго спачуванні да сябе. Сапсаванае свята ніколі ўжо не вярнуць. «Святы Валянцін, каб ты толькі ведаў!..»

— Асечка, — Марыя Ільінічна падслухала, як сын называў каляжанку, — Асечка, ты распраніся, гарбату пап'ём з дарогі, сагрэемся...

— Я ў Мінск вярнуся. Пакуль яшчэ відно, — Ася ўздыхнула, прымірэнча пажадала Валянціну здароўя.

— Каўбаскі вам пастаўлю, свае, у падстрэшшы сушылася. Валечка сам яе рабіў. І гурочкі саліў! З пограба прынясу, — жанчына сцягнула рукавічкі з Асіных рук, з палёгкай уздыхнула: — Я і кажу, няма каму за Валянцінам прыгледзець, вось і не пазваніў. А каб была жонка, падказала б. Ты, красуня, не спяшайся, электрычкі часта ходзяць!

Марыя Ільінічна ўвіхалася каля стала, неўзаметку дабаўляла каўбаскі ў Асіну талерку.

— Я ж гляджу, няма на пальцы заручальнага пярсцёнка. Значыць, нікому яшчэ не абяцалася. То і добра, маладзенькая яшчэ. А каб такі, як мой Валічак, добры гаспадар быў бы.

— Я б яго навучыла гаварыць, маўчуна вашага! — дзяўчына больш не злавалася.

— Вось і добра, паразумеемся! — хітравата пагадзілася Марыя Ільінічна: у абаіх адлегла ад сэрца.

Гэтая Валянцінава нязграбнасць, выпадкова адкрытая гаспадарлівасць, скупая мужчынская пяшчота, з якою ён ставіўся да бацькоў, запамінальныя хвіліны ў вясковай хаце, напоўненыя шчырымі гукамі і новымі фарбамі, і праўда, завабілі Асю. Успомнілася бясклапотнае дзяцінства з мамай і татам, якія заўсёды побач, аднекуль з душэўных глыбінь ўзнялося жаданне сям'і, успаміны атулілі паўзабытай ласкавай цеплынёй. Кудысці ў адначассе знікла непатрэбная зласлівасць. Навошта яна? Валянцін не быў ні славалюбцам, ні кар'ерыстам, ён не патрабаваў асаблівых умоў для сябе, больш высокага, чым у калег, акладу. І вучыўся на сваіх памылках, а не чужых. А ўжо гэтая апошняя!.. Ася ўсміхнулася: упершыню за доўгія, змрочныя, халодныя тры дні.

Яны з Марыяй Ільінічнай дапілі чай, пагаварылі пра небарак-мужыкоў, пасмяяліся з сябе: весела і шчыра.

Ужо ў прыцемках з пакетам каўбасак у руцэ, у які Марыя Ільінічна дадала бутэльку самагонкі («ого!»), Ася вярнулася ў сталіцу. А назаўтра прыйшла да начальніцы: «Гэта ад хворага!» Наўмысна падрабязна, з драбнюткімі дэталямі, з успамінам пра скрыгат выгунных рэек, пра дым ад цыгарэт у тамбуры, пра Марыю Ільінічну, якою цяпер захаплялася, распавяла пра паездку. Ад гэтага ўнутры стала марозная яснасць. У пакоі строгай начальніцы аддзела кадраў, якая працуе, а можа, і жыве так, як распісана ў службовай інструкцыі, хіба толькі яшчэ раз падзівілася невытлумачальнаму спрыянню лёсу... Хораша! Як хораша ў гэтым свеце! І маўклівы Валянцін не такі ўжо і даўгавязы.

— Ну, цяпер Лазоўскага за дзесяць вёрст абыходзіць будзеш? — начальніца не стрымала свайго задавальнення. Быццам толькі Ася ды Валянцін і заміналі яе запозненаму шчасцю.

«Ах, начальніца, начальніца! І як гэта ў цябе складна атрымалася! Кінула мяне ў замецены гарадок, у яго штодзённых турботы, у незнаёмую гаспадарку, якую трэба даглядаць, да чужых бацькоў, якія мараць убачыць нявестку і нянчыць унукаў, з іх няспраўнай мясарубкай, якая тоўстымі скрылямі рэжа мяса для каўбас, з гэтымі духмянымі каўбасамі ў натуральнай абалонцы і, нарэшце, з сапраўднай гаючай гарбатай на стале! Бясспрэчна, у кіраўнікоў не бывае промахаў!»

— Праз тыдзень мы з Валянцінам едзем на лыжах. Запрыкмеціла я ў Рудзенску адну лыжню, — ахвотна адказала Ася, і з задавальненнем адчула, як гэта падзейнічала. Начальніца занепакоена паглядзела на яе:

— Не ваярка ты, Асечка. Перад першай жа няўдачай спасавала. Прыстасавалася...

— Эх, пані начальніца! Усё гэта неяк зусім па-іншаму завецца. Гэта — жыццё!

Дзяўчына спяшалася: праз колькі гадзін яна мусіць яшчэ раз ехаць на электрычцы ў Рудзенск. Без слёз. І без шкадаванняў. З асалодаю перадвясновых спадзяванняў і шчаслівага няведання, што ў яе наперадзе...

# Папяровае выданне для дзяцей — не рэтра!

Мінская фабрыка каляровага друку, якая не так даўно злілася з ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа» — нязменны ўдзельнік кніжнай выстаўкі з першага года яе правядзення. Вынікі працы гэтай арганізацыі ў мінулым годзе і планы на будучыню — у размове з Яўгенам Малашэвічам, галоўным рэдактарам — начальнікам рэдакцыйна-выдавецкага аддзела ўстановы.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**— Пачатак года — час падводзіць вынікі папярэдняга. Якім ён быў для Мінскай фабрыкі каляровага друку?**

— Каб патлумачыць чытачам «ЛіМа» нашую сітуацыю, удакладню, што ў былой фабрыкі традыцыйна існавала некалькі кірункаў выдавецкай дзейнасці. Сярод іх — выданне дзіцячай і навукова-папулярнай літаратуры, кніг альбомнага фармату, прадстаўнічай літаратуры і твораў, выдадзеных за ўласныя сродкі аўтараў або з дапамогай спонсара. Сярод альбомных выданняў, напрыклад, вельмі прыстойным для сённяшняга часу сумарным накладам — 30 тысяч — выйшла «Спадчына Беларусі». Папулярнасцю да гэтага часу карыстаюцца «Скарбы Беларусі», кнігі «Перамога. 1418 дзён Вялікай Айчыннай вайны», «Папяровыя грошы на тэрыторыі Беларусі», «Манеты», «Другая сусветная вайна» і інш.

Стабільны попыт заўсёды мелі і маюць кнігі серыі «Народы Зямлі». У яе рамках мы друкавалі не сённяшніх аўтараў, а даследчыкаў, якія працавалі ў XVIII — пачатку XX стагоддзя. Іх рарытэтныя працы засталіся ў адзінкавых асобніках толькі ў найбольш значных бібліятэках свету і з'яўляюцца ўнікальнымі першакрыніцамі для гісторыкаў і не толькі. Цяпер яны перакладзены на сучасную рускую літаратурную мову і даступныя шырокаму чытачу. Гэта кнігі па гісторыі і культуры шэрагу замежных краін (напрыклад, «Брытанія. Кароткая гісторыя англійскага народа» Дж. Грына, «Гісторыя польскага народа» В. Грабеньскага, «Германія» І. Шэра, «Гісторыя рускага жыцця» І. Злобіна, «Гісторыя арабскай цывілізацыі» Г. Лебона і інш.), а таксама падзей мінулага (напрыклад, «Вікінгі», «Езуіты», «Імператар Юстыніян»). Праграма прадугледжвала працяг серыі ў выглядзе выпускаў, прысвечаных гісторыі Францыі, Ізраіля і іншых краін. Планавалася выданне іншых цікавых кніг. Але ў нашыя планы ўмяшалася рэарганізацыя.

**— У мінулым годзе адбылося аб'яднанне фабрыкі каляровага друку з паліграфічным камбінатам імя Якуба Коласа...**

— Так, новая ўстанова пераняла афіцыйную назву паліграфкамбіната, хоць вытворча-тэрытарыяльнай асновай для яе стала Вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку». Зразумела, аб'яднанне пацягнула за сабой выдаткі, у выніку ўласныя абаротныя сродкі мы былі вымушаны накіраваць на рэалізацыю аб'яднанай гадавой праграмы, засяродзіўшы ўвагу на папярова-белавых таварах, якія рэалізуюцца хутка, а выдавецкую работу пераарыентаваць і ў большай ступені спалучыць з заказнымі выданнямі.

Зрэшты, і пры гэтых умовах мы ўсё ж парадавалі чытачоў шэрагам цікавых выданняў. Напрыклад, былі надрукаваныя работы творцаў, выхадцаў з былога Савецкага Саюза, якія цяпер жывуць у далёкім замежжы, але працягваюць прытрымлівацца былых культурных традыцый і падтрымліваюць сувязь з намі. У прыватнасці, па-руску выйшлі дзіцячыя кнігі пісьменніка-мастака Ігара Ланды («Краіна банцікаў», «Дзюймовачка»), па-руску і па-англійску — «Казкі» літаратара Леаніда Зубарава, што жыве ў ЗША.



Таксама выдаём кнігі па замове рэлігійных устаноў, мясцовых канфесій. Напрыклад, для праваслаўнай царквы выдалі «Дзеянні апосталаў», для патрэб адной англійскай фірмы — творы прыхільнікаў Рэфармацыі і пратэстантызму.

**— Гэтыя выданні будуць прадстаўлены на кніжнай выстаўцы?**

— Безумоўна! Мінская фабрыка каляровага друку традыцыйна ўдзельнічала ва ўсіх найбольш значных выстаўкахкірмашах Старога свету — у Франкфурце-на-Майне, Маскве, Варшаве, Вільнюсе, Кіеве і, зразумела, у мінскай выстаўцы-кірмашы. Будзем прадстаўляць лепшыя ўзоры выдавецкай прадукцыі. Як тыя, што выпушчаныя намі па ўласных праграмах, так і тыя, што рабіліся па замове. Сярод лепшых выданняў мінулага года магу адзначыць серыю з чатырох кніг славутага артыста цырка Расіі Юрыя Куклачова «Урокі дабрыні», выдадзеную па праграме навучання чытанню кнігу «Маміны ўрокі» В. Захаравай, двойчы перавыдадзеную «ГеральдыкуБеларусі» А.Цітова, грунтоўныя зборнікі дзіцячых казак, якія раней выдаваліся ў выглядзе брашур, кнігі «Падарожжа ў свет адкрыццяў» Міхася Пазнякова і «Дзівосныя прыгоды разумнага лісяняці Фокі» Віктара Рашкевіча.

**— Якія планы на 2013 год?**

— Гэты год, нягледзячы на ўсе цяжкасці фінансавага плану, бачыцца больш перспектыўным, чым 2012-ы. Паколькі працэс аб'яднання завяршаецца, спадзяёмся на вяртанне да працы па ўсіх былых напрамках. Асаблівую ўвагу будзем па-ранейшаму надаваць дзіцячай літаратуры. Згаджуся, што апошнім часам імклівa пашыраецца камп'ютарная адукацыя. Тэксты даступныя праз інтэрнэт. Але ўпэўнены, што творы для дзяцей лепш засвойваюцца праз выкарыстанне папяровых носьбітаў. Дашкольнікі і малодшыя школьнікі больш адчувальныя да сапраўдных фарбаў, да паперы, якую можна размалёўваць асадкай або алоўкам (асабліва ў кнігах, непасрэдна прызначаных для расфарбоўкі). Таму для нас дзіцячае кнігавыданне не адносіцца да рэтра. Зразумела, мы не адмовіліся і ад сваёй прыхільнасці да фундаментальных тэкставых і альбомных работ, прысвечаных гістарычным караням і духоўным здабыткам беларускага этнасу і краю, роўна як і ад выданняў па сусветнай гісторыі і культуры. Таксама і далей будзе развівацца спектр кніжнай прадукцыі, звязанай з патрэбамі школьнікаў і студэнтаў. Але гэта больш звязана з папярова-белавымі таварамі, чым з кнігамі.

Скажу яшчэ, што мы не набывалі права на выпуск выданняў з сімволікай чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў Мінску ў 2014 годзе. Але гэта не азначае, што не будзем працаваць у гэтым кірунку. У нас рыхтуюцца да выхаду ўласныя кнігі, якія прадстаўляюць культурную спадчыну Беларусі для гасцей горада і чэмпіянату на рускай, англійскай і беларускай мовах, а з другога боку, мы гатовы прадставіць сваю паліграфічную базу і рэдакцыйна-выдавецкія паслугі ўсім, хто захоча выдаць да азначанай вышэй падзеі прыгожую каляровую прадукцыю.

# Кіёскі, крамы, павільёны



Крама «Глобус».

Брэнд «Белсаюздрук» у нашай краіне добра вядомы. Шмат хто штораніцу, зазірнуўшы ў паштовую скрыню, не прамінае па дарозе на працу і шапікі з перыёдыкай на прыпынках грамадскага транспарту. Раніца, як заўсёды, пачынаецца з газеты — і не адной! Але... ведаючы пра запатрабаванні чытацкай аўдыторыі, «Белсаюздрук» пашырае асартымент і за кошт больш грунтоўнай літаратуры: распаўсюджвае не толькі перыёдыку, але і кнігі. Адзін толькі прыклад: адкрытая ў мінулым годзе крама, што ў пераходзе каля станцыі метро «Плошча Перамогі», амаль напалову занятая кнігамі: палічкі з імі прадстаўляюць навінкі вядучых айчынных выдавецтваў. Пра напрацоўкі прадпрыемства па продажы кніг «ЛіМу» распавяла намеснік дырэктара «Белсаюздруку» Святлана Ніканава.

Ірына ТУЛУПАВА

— Як вядома, «Белсаюздрук» з'яўляецца найбуйнейшым прадпрыемствам у горадзе па рэалізацыі перыядычных выданняў і тым адыгрывае вялікую ролю ў ажыццяўленні дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі. З вопыту працы можам сказаць, што найбольшым попытам карыстаюцца друкаваныя выданні грамадска-палітычнай тэматыкі, дзіцячыя, для адпачынку, так званыя «дачныя» і калекцыйныя.

**— Але ў краіне з кожным годам павялічваецца колькасць найменняў друкаванай прадукцыі. Ці паспяваеце своечасова знаёміць насельніцтва з усімі навінкамі?**

— Усе навінкі, якія з'яўляюцца ў выдавецтвах, мы адразу прадстаўляем у гандлі. Для больш паспяховага продажу створаны «куткі кнігі». На гандлёвых аб'ектах размешчаныя інфармацыйныя наклейкі, плакаты. Прычым кнігі прадстаўленыя ў розных па плошчы і аб'ёмах продажу гандлёвых установах: у кіёсках, павільёнах і крамах «Белсаюздруку».

**— Чым для вашай сістэмы становяцца выстаўкі-кірмашы, што праводзяцца ў краіне? Як сёлета ўдзельнічаеце ў традыцыйным Мінскім міжнародным кніжным кірмашы?**

— Удзел у выстаўках дапамагае азнаёміць жыхароў горада і гасцей сталіцы з шырокім асартыментам друкаваных выданняў. Таксама садзейнічае заключэнню новых дамоў, што дазваляе пашыраць асартымент, — гэта робіцца для нашых пакупнікоў.

На леташняй кніжнай выстаўцы мы прадстаўлялі кнігі беларускіх выдавецтваў. Таксама праводзім іх прэзентацыі і ў крамах «Белсаюздруку»: у студзені мінулага года прайшла сустрэча з пісьменнікамі, супрацоўнікамі часопіса «Полымя» Вадзімам Спрынчанам і Уладзімірам Мазго; сустрэча і прэзентацыя кніг беларускай пісьменніцы Раісы Баравіковай, у лютым — сустрэча з пісьменнікам, крытыкам, перакладчыкам, рэдактарам часопіса «Нёман» Юрыем Сапажковым, у сакавіку спецыялісты выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» правялі прэзентацыю «Дзіцячая літаратура. Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў». Красавік падарыў чытачам спатканне з літоўскім пісьменнікам Яронімасам Лаўцюсам, які прадставіў кнігу «А лёс заўсёды з табой». Так што кожны месяц пазначаецца нейкімі літаратурнымі падзеямі.

Прычым, нашы шапікі знаходзяцца не толькі на вуліцах горада. Кнігі мы прадстаўляем у вучэбных установах БАТУ, БДЭУ, БДТУ.

Дарэчы, у чэрвені 2012 года «Белсаюздрук» правёў дабрачынную акцыю — мы падарылі кнігі беларускіх выдавецтваў дзіцячаму гарадку сямейнага тыпу на суму каля 2,5 мільёна рублёў. Падобную акцыю плануем правесці і ў гэтым месяцы.

**— Якія тэндэнцыі пазначыліся ў развіцці сеткі «Белсаюздруку»? Пры адкрыцці новых кропак што найперш улічваеце?**

— Мы імкнёмся адкрываць кіёскі і павільёны ў новых мікраёнах і па лініі метро. На сённяшні дзень у РУП «Белсаюздрук» налічваецца 391 гандлёвы аб'ект (у тым ліку 27 крам і 7 павільёнаў). У бліжэйшы час плануецца адкрыццё новых гандлёвых кропак на станцыях метро «Грушаўка» і «Пятроўшчына», а таксама павільёна на прыпынку станцыі метро "Уручча".

**— Часта даводзіцца выкарыстоўваць у працы інавацыі?**

— Для таго, каб і гандляры ведалі пра кніжныя навінкі, мы праводзім сустрэчы спецыялістаў беларускіх выдавецтваў з нашымі работнікамі.

Пачынаем працаваць і ў інтэрнэт-прасторы. У 2012 годзе адкрылі інтэрнэт-магазін прадпрыемства «Белсаюздрук». У ім прадстаўленыя перыядычныя выданні і кнігі розных тэматык: дзіцячая, па мастацтве і культуры, кнігі і фотаальбомы пра Мінск і Беларусь, літаратурна-мастацкія выданні, энцыклапедыі.

Зрэшты, тым, хто яшчэ не ведае: пры набыцці прадукцыі праз інтэрнэт-магазін www.bspechat.by прадугледжаны скідкі, памер якіх залежыць ад сумы заказу.

# Трыумф кнігі, трыумф мастацтва

Традыцыйным стала правядзенне Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» напрыканцы студзеня, якраз напярэдадні Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, а ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў — у першыя дні працы форуму. Адметна, што трыумфатараў конкурсу віталі — таксама па добрай традыцыі — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава**

На ўзнагароды «творчага спаборніцтва» ў 14 намінацыях прэтэндавала 175 кніг павышанай якасці ад 31 выдавецтва. Сябрамі журы сталі рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна (старшыня журы конкурсу), першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч (сустаршыня журы), дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі, дырэктар выдавецтва «Кавалер» Канстанцін Хацяноўскі, мастак-графік, дызайнер Уладзімір Цэслер.

Падчас уручэння галоўнай узнагароды конкурсу — Гран-пры ў намінацыі «Трыумф» — Міхаіл Баразна адзначыў: «Беларускі нацыянальны скарб і багацце — гэта таленты яе грамадзян. У гэтых талентаў ёсць адна асаблівасць — уменне працаваць супольна, аб'ядноўвацца дзеля вялікіх творчых праектаў, адзін з якіх — гэтае выданне». Але ж, думаецца, падобныя словы можна сказаць пра кожны з праектаўлаўрэатаў конкурсу «Мастацтва кнігі».

Таму давайце павітаем пераможцаў!

### НАМІНАЦЫЯ «ТРЫУМФ»

**Пераможца:** фотаальбом «Полацк. 1150».

Ганаровы знак-сімвал «Залаты фаліянт» і ганаровы дыплом імя Францыска Скарыны атрымалі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» (дырэктар Таццяна Бялова), дызайнер Усевалад Свентахоўскі і выдавецтва «Беларускі Дом друку».

### НАМІНАЦЫЯ «ДУХОЎНАСЦЬ»

**Пераможца:** факсімільнае духоўнаасветніцкае выданне «Жыціе блажэннай Еўфрасінні, ігумені манастыра Уседзяржыцеля Святога Спаса ў градзе Полацку» выдавецтва Беларускага Экзархата Маскоўскага Патрыярхата.

**Дыплом І ступені:** кніга «Я — сын Ваш» Анатоля Статкевіча-Чабаганава. **Дыплом ІІ ступені:** зборнік «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

### НАМІНАЦЫЯ «ЗАЛАТЫЯ СКРЫЖАЛІ»

**Пераможца:** падарункавае выданне «Гісторыя беларускай чыгункі. Са стагоддзя XIX — у стагоддзе XXI» выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Дыплом І ступені:** двухтомнік Уладзіміра Ліхадзедава, Уладзіміра Пефціева і Кірыла Сокала «1812: храналогія Айчыннай вайны на старых паштоўках і ў графіцы», «1812: помнікі Айчыннай вайне на старых паштоўках» выдавецтва «Тэхналогія». **Дыплом ІІ ступені:** энцыклапедыя «Сучасная геральдыка Беларусі» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Спецыяльнымі дыпломамі журы ў гэтай намінацыі ўганараваны электронная ўзнаўляльная версія каталога «Рэспубліка Беларусь. Экспартны патэнцыял» (выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»), электронныя



Трыумф Таццяны Бяловай.

дадаткі «Хрыстос — Цэнтр нашай любові» і «Уцеха і суцяшэнне» — Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр у Полацку Полацкай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы.

### НАМІНАЦЫЯ «ART-КНІГА»

**Пераможца:** альбом «Валянцін Губараў. Важна ўсё» выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Дыплом І ступені:** выданні «Іван Місько: скульптура», «Аскар Марыкс. 1890 — 1976» і «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» выдавецтва «Чатыры чвэрці». **Дыплом ІІ ступені:** альбом-каталог «Кнігі кірылаўскага шрыфту XVI — пачатку XX стагоддзя» выдавецтва «Белпрынт».

### НАМІНАЦЫЯ «ЛІТ-ФАРМАТ»

**Пераможца:** кніга Алеся Краўцэвіча «Гедымін (1316 — 1341). Каралеўства Літвы і Русі» выдавецтва Святланы Татарнікавай.

**Дыплом І ступені:** кніга Анатоля Бензерука «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля» выдавецтва «Мастацкая літаратура». **Дыплом ІІ ступені:** зборнік вершаў Генадзя Пашкова «Званы юнацтва» выдавецтва «Беларусь».

### НАМІНАЦЫЯ «РАЗАМ З КНІГАЙ МЫ РАСЦЁМ»

**Пераможца:** кніга «Дзе Купала начавала. Народныя песні. Калыханкі. Прыказкі і прымаўкі» выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Дыплом І ступені:** кніга Алены Масла «Каляды з хроснай» выдавецтва «Мастацкая літаратура». **Дыплом ІІ ступені:** кнігі «Цуда-казкі», «Казкі дзецям пра звяратаў», «Казкі для самых маленьких» выдавецтва «Кніжны Дом», а таксама кніга казак Георгія Марчука «Добрае сэрца. 50 казак» выдавецтва «АСАР».

### НАМІНАЦЫЯ «ПАДРУЧНІК НОВАГА СТАГОДДЗЯ»

**Дыплом І ступені:** вучэбны дапаможнік з электронным дадаткам «Англійская мова. Сацыяльныя зносіны» беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. **Дыплом ІІ ступені:** вучэбнае выданне для 1-га класа «Буквар» выдавецтва «Народная асвета».

### НАМІНАЦЫЯ «ЭЎРЫКА»

**Пераможца:** навукова-папулярнае выданне «Хто жыве ў Беларусі» выдавецкага дома «Беларуская навука».

**Дыплом І ступені:** кніга А. Вялічкі «Напалеон. Ад Корсікі да Святой Алены ў паштоўках» выдавецтва «Мастацкая літаратура». **Дыплом ІІ ступені:** кніга Ю. Лаўрыка «Кнігі і кнігазборы куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII стагоддзя» выдавецтва «Тэхналогія».

### НАМІНАЦЫЯ «ФОТАПОГЛЯД»

**Пераможца:** фотаальбом Дзяніса Раманюка «Сінявокая Беларусь». Кніга першая «Вада».

**Дыплом І ступені:** фотаальбом Анатоля Клешчука «Беларусь. Зямля песняроў» выдавецтва «Беларусь»; фотаальбом Сяргея Плыткевіча «Планета Беларусь» выдавецтва «Рыф-Тур».

### СПЕЦЫЯЛЬНАЯ НАМІНАЦЫЯ «ЗА ЎКЛАД У ЗАХАВАННЕ ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ»

**Пераможца:** кніга «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911 — 1912» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

**Дыплом І ступені:** факсіміле выданняў «Калядная пісанка. 1913 год», «Буквар мовы славянскай. 1767 год» і кніга «Буквар у жыцці нашых продкаў», Нацыянальная бібліятэка Беларусі. **Дыплом ІІ ступені:** альбом Б. Лазукі «Помнікі мастацкай культуры Беларусі» выдавецтва «Беларусь».

### НАМІНАЦЫЯ «САДРУЖНАСЦЬ»

**Пераможца:** кніга «Жывая вера. Ветка» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

**Дыплом І ступені:** кніга пад агульнай рэдакцыяй віцэ-прэм'ера Рэспублікі Беларусь Анатоля Тозіка «Кітай вачыма беларусаў» выдавецтва «БелТА». **Дыплом ІІ ступені:** кніга «Полацк — Смаленск. Старонкі агульнага лёсу» выдавецтва «Пачатковая школа».

### НАМІНАЦЫЯ «ЗА ПРАПАГАНДУ ЧЫТАННЯ»

**Пераможца:** Беларускі саюз жанчын за правядзенне ў 2012 годзе дабрачыннай акцыі «Маміна казка».

**Дыплом І ступені:** Белаграпрамбанк за падтрымку выдавецкіх праектаў «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі.

### НАМІНАЦЫЯ «МАЙСТЭРСТВА»

**Лепшы дызайнер кнігі 2012 года** — Усевалад Свентахоўскі.

**Лепшы ілюстратар** — Уладзімір Даўгяла.

**Лепшы фотамастак** — Дзяніс Раманюк.

### СПЕЦЫЯЛЬНАЯ НАМІНАЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ГАНАРОВАМУ ГОСЦЮ — РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ — «РУСКІ СВЕТ»

**Пераможца:** дэпартамент сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы ўраду Масквы за выданне паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» ў перакладзе на рускую мову, стварэнне сумесных выдавецкіх праектаў «Энцыклапедыя Перамогі. Беларусь — Масква», «Жывая вера. Ветка».

# Гофман прыехаў у Беларусь

Невысокі, сутулы, з велікаватаю галавой, валасы — воранава крыло, насупленыя бровы, вострае падбароддзе крыху выступае, вочы — калючыя, пранізлівыя, і ў той жа час — поўныя тугі. Такім быў вялікі казачнік Эрнст Тэадор Амадэй Гофман. 24 студзеня споўнілася 237 год з дня яго нараджэння.

**Уладзімір ГАРЫНЬ**

Угодкі пісьменніка традыцыйна адзначаюцца ў міжнародным маштабе выстаўкамі з цыкла «Гафманіяна». Сёлетні праект аб'яднаў дзве краіны — Беларусь і Расію — і тры музеі: Калінінградскі абласны гісторыка-мастацкі музей, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа.

Як вядома, Гофман нарадзіўся ў горадзе Кёнігсбергу, сучасным Калінінградзе. Але, як ні дзіўна, у мясцовым музеі казачнік «з'явіўся» толькі ў 2006 годзе, калі Гофман-цэнтр горада Бамберга прадставіў наведвальнікам шраг сапраўдных дакументаў пра жыццё і творчасць пісьменніка. Тады і нарадзілася «Гафманіяна». За сем гадоў існавання праекта ў выстаўках узялі ўдзел больш як 90 мастакоў, прадстаўлена больш як 1000 работ жывапісу, графікі, скульптуры, інсталяцый, лялек і інш.

Што ж прывезлі калінінградцы ў Беларусь? Выстаўкі, якія адкрыліся 24 студзеня ў двух мінскіх музеях — «Малюнкі Гофмана» і «Сустрэчы з Э. Т. А. Гофманам», — розніцца канцэптуальна. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа вы ўбачыце копіі малюнкаў самога Гофмана. Партрэты, аўтапартрэты, сюжэтныя сцэнкі, поўныя гратэску, іроніі і, безумоўна, трапнасці. Цікава, што і з сябе самога Гофман умеў пакпіць, што заўважна ў некаторых замалёўках, прыкладам, «Гофман у гасцях у выдаўца Кунца».

Акрамя таго, толькі ў «коласаўцаў» можна паглядзець анімацыйны фільм знакамітага расійскага мастака Міхаіла Шамякіна па матывах твораў Гофмана. Больш нідзе вы не знойдзеце гэтую экранізацыю: Шамякін сам даслаў копію фільма ў Калінінградскі музей і пры гэтым забараніў распаўсюджваць свой твор, таму паказваюць фільм толькі на такіх выстаўках.

Яшчэ адна асаблівасць экспазіцыі «Малюнкі Гофмана» — правядзенне паралеляў паміж творчасцю казачніка нямецкага і казачніка беларускага — Якуба Коласа. Пра іх распавяла на адкрыцці выстаўкі кандыдат філалагічных навук, даследчык сувязей беларускай і замежнай літаратур Галіна Адамовіч. Дарэчы, падчас імпрэзы дырэктары музеяў Сяргей Якімаў і Зінаіда Камароўская падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве.

Выстаўка «Сустрэчы з Э. Т. А. Гофманам» у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы больш разнапланавая. На інфармацыйных стэндах скампіляваныя малюнкі Гофмана, біяграфічныя звесткі пра пісьменніка, партрэты блізкіх яму людзей, фотаздымкі мясцін, звязаных з жыццём казачніка, а таксама безліч ілюстрацый да твораў Гофмана. Найбольш цікавыя з іх — работы мастака Дона Дэйлі.

# Лічба ў лабірынце

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў чарговы раз сталася для прыхільнікаў лічбавага мастацтва «новай зямлёй». Напрыканцы студзеня ў галерэі «Лабірынт» адбылося ўрачыстае закрыццё IV Мінскага міжнароднага фестывалю «Terra Nova», галоўнай мэтай якога з'яўляецца стымуляванне прымянення новых тэхналогій у выяўленчым мастацтве.**

**Алеся АРЫЦКАЯ, фота Кастуся Дробава**

Сапраўды, сучаснае мастацтва немагчыма ўявіць без найноўшых тэхналогій, якія адкрываюць перад мастакамі неабмежаваную колькасць магчымасцей. Галоўнае — не забываць, што сапраўднае мастацтва, як і тысячы год таму, павінна несці ў сабе канцэпцыю, ставіць перад гледачом пэўныя пытанні, а наяўнасць добрай камеры не кампенсуе адсутнасць таленту і густу. Менавіта таму фестывалі, накіраваныя на развіццё лічбавага мастацтва, патрэбны сучаснаму грамадству — тут мастакі, асабліва маладыя, якія працуюць у гэтым кірунку, могуць паспрабаваць сілы, абмяняцца вопытам з калегамі, параўнаць узровень сваёй творчасці з узроўнем іншых, пачуць крытыку кампетэнтнага журы.

Мінскі міжнародны фестываль лічбавага мастацтва «Terra Nova» — добры прыклад такога фестывалю. Створаны ў 2009 годзе з мэтай развіцця камп'ютарнай графікі і мультымедыямастацтва, актывізацыі творчых кантактаў паміж мастакамі розных краін, прыцягнення новага пакалення аўтараў, а таксама пашырэння інструментальнай і тэхналагічнай базы сучаснага мастацтва, ён ужо чацвёрты год запар збірае пад адным дахам і маладых мастакоў, і іх вядомых калег.

— Фестываль, канечне, заклаў аснову для пэўных традыцый, якіх мы імкнёмся прытрымлівацца, — распавядае аўтар і куратар праекта, загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі мастак Фёдар Ястраб. — Да таго ж, хаця фестываль збольшага скіраваны на моладзь, удзел у ім бяруць і мэтры. Гэта таксама традыцыя, бо вельмі важна даць маладому мастаку магчымасць параўнаць сябе з мэтрам, паспрачацца з ім, здолець адстаяць сваю эстэтычную пазіцыю перад ужо прызнаным аўтарытэтам, адчуць у нялёгкай барацьбе свае сілы. Сёлетні фестываль адметны сваімі маштабамі: было прадстаўлена больш як 170 фотаздымкаў і твораў камп'ютарнай графікі, да таго ж праводзіліся паказы — напрыклад, анімацыйнага кіно. Таксама даволі шырока быў прадстаўлены відэа-арт. Мне падаецца, на сённяшні дзень гэта важна, бо відэа-арт у Беларусі павінен мець пляцоўку для спаборніцтва і развіцця. Радуе і якасць твораў, якая значна вырасла. Наогул, мы не кожны год прысуджаем Гран-пры, часам толькі першыя месцы ў розных намінацыях. Але на дадзены момант у нас ёсць пераможца. Гэта сталічны фотамастак Вадзім Качан — за цыкл работ «Паралельны свет».



— Сам праект вельмі добры і патрэбны ў Беларусі, бо ў нас дастаткова складаныя адносіны з лічбавым мастацтвам, — зазначыў фотамастак. — Вельмі добра, што з'явіўся ён менавіта ў Нацыянальнай бібліятэцы — адразу адчуваецца важнасць падзеі. Для мяне асабіста лічбавае фота дае магчымасць спрасціць тэхналагічнасць, не больш. Камп'ютар — гэта толькі інструмент. Хаця, магчыма, з часам тэхніка зменіцца, і, хто ведае, можа, нашы нашчадкі будуць вывучаць гэты няшчасны піксель, з якім мы ўсё змагаемся. Што да Гран-пры, я рады, што мае работы, якія ствараліся ў 2005 годзе, актуальныя і цяпер. Яны пра сэнс жыцця. На момант іх стварэння я знаходзіўся ў глыбокім душэўным крызісе, таму не выпадкова ўзяў чорна-белы тон, каб паказаць праўдзівасць таго, што адбываецца. Адзін італьянскі фатограф неяк набыў у мяне працу з гэтай серыі і папрасіў, каб я зрабіў 20 копій, бо ёсць заказчыкі. Але я адмовіўся. Каб такое стварыць, патрэбны пэўны стан. Мастак — творца. Цяпер, зразумела, я ў іншым стане, таму не жадаю халтурыць, гэта будзе кан'юнктурная праца. Разам з Гран-пры я атрымаў магчымасць правесці персанальную выстаўку ў адной з галерэй Нацыянальнай бібліятэкі. У гэтым годзе мне спаўняецца 55, таму яна будзе прысвечана юбілею, я нават назву ведаю — «Пяць плюс пяць». Вельмі прыемна, што два мае вучні, Бельскі і Раковіч, якія таксама займаюцца фатаграфіяй, атрымалі тут старт.

*Уладальнік Гран-пры фотамастак Вадзім Качан.*



*Наталля Малышка. Серыя «Танец». Фота. 2012.*

Сярод дыпламантаў фестывалю — прадстаўнікі Беларусі, Эстоніі, Украіны, Расіі.

Выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і адзін з членаў журы Аляксандр Шчэпетаў адзначыў некаторых удзельнікаў:

— Заклікаю паважаных чытачоў газеты паглядзець абсалютна неверагодны фільм, які атрымаў спецыяльны прыз намінацыі «Анімацыя», — «Як служыў жа я ў пана» вядучага беларускага аніматара Міхаіла Тумелі. У адрозненне ад яго «Беларускіх прымавак» у выцінанках, гэта не проста прыгожае кіно, а шэдэўр: незвычайна вобразнае, дакладнае адлюстраванне таго, што адбывалася ў Беларусі на пачатку мінулага стагоддзя. У намінацыі «Музычны відэакліп» першае месца атрымала Марына Пяшкова, студэнтка 5-га курса Акадэміі мастацтваў, якая зрабіла анімацыйны кліп на вершык з класічнай дзіцячай англійскай паэзіі «Five little monkeys». Гэта добрая работа мае ўсе магчымасці на камерцыйны працяг. Лепшы рэкламны ролік стварыла Марыя Рамушкевіч: прома-ролік для анімацыйнай студыі «Беларусьфільма». І хутчэй за ўсё ён будзе мець працяг. А яшчэ вельмі спадабаліся працы з раздзелаў «Відэа-арт» і «Кароткі метр»: нарэшце з'явіліся маладыя людзі, якія ўмеюць жартаваць! Гэта вялікая рэдкасць — маладым мастакам падаецца, што трэба казаць толькі пра глабальнае і існае. А тут яны паказалі добрае пачуццё гумару, і гэта вельмі радуе, бо празмерная сур'ёзнасць перашкаджае як у жыцці, так і ў мастацтве. Наогул добрых праектаў шмат, усіх не пералічыш.

Між іншым, усе работы, якія былі прадстаўлены на IV Мінскім міжнародным фестывалі лічбавага мастацтва «Terra Nova», а таксама на конкурсах і выстаўках мінулых гадоў, захоўваюцца ў галерэйным архіве, які вядзецца з часоў адкрыцця бібліятэкі. Сюды можа звярнуцца любы жадаючы. А наогул, чакаем пяты, юбілейны, фестываль лічбавага мастацтва — менавіта пасля яго плануецца выпуск дыска з работамі пераможцаў усіх пяці фестываляў.

# Клецкі вучань Кругера

**Каб запоўніць мастацкую карту Міншчыны (хацелася б стварыць адмысловую біяграфію краю ў звязку з лёсамі мастакоў, скульптараў, графікаў), па крупінках збіраю звесткі пра Меера Айзенштата. Вядома, што нарадзіўся ён у Клецку 6 (18) студзеня 1895 года.**

**Мікола ГАЛЫНСКІ**

У 1916 годзе М. Айзенштат браў урокі лепкі ў славутага Кругера. Янкель Кругер (1869 — 1940) — са старэйшага пакалення беларускіх савецкіх мастакоў і педагогаў. Вучань Л. Горавіца (а была ў яго біяграфіі яшчэ і парыжская акадэмія Жуліяна) цудоўна разумеў, што значыць спецыяльная адукацыя для мастака. Школу малявання Кругер адкрыў у Мінску яшчэ ў 1906 годзе. Атрымаўшы першыя мастакоўскія ўрокі, Меер Айзенштат аваладаў і прафесіямі больш шырокімі. Трэба ж было нечым зарабляць на хлеб. Працаваў малады чалавек у прыватных майстэрнях па слясарнай частцы і электрамеханіцы. Хлопца паслелі яшчэ да Кастрычніцкіх падзей прызваць у царскае войска. Праз некаторы час ён дэзерціраваў.

У 1923 — 1926 гг. Меер Айзенштат вучыўся на рабфаку, куды перш-наперш прымалі выхадцаў з рабочых і сялянскіх сем'яў, тых, хто не меў «праколаў» перад рэвалюцыяй і партыяй. Пасля рабфака 31-гадовага маладога чалавека залічылі на скульптурнае аддзяленне славутага ВХУТЕМАСа. Сярод настаўнікаў Меера былі Булакоўскі, Яфімаў, Каралёў, Мухіна, Чайкоў. У майстэрні апошняга і праходзіла творчае сталенне майстра. Дарэчы, 1928 год для нашага земляка пазначаны ўдзелам у Другой выстаўцы беларускіх мастакоў, якая адбылася, як вядома, у Мінску. Значыць, стасункі з радзімай працягваліся. Як, пэўна, і стасункі з Кругерам — першым настаўнікам па дарозе ў вялікі мастацкі Сусвет.

Меер Айзенштат, нягледзячы на ўсю заідэалагізаванасць тагачаснага мастацтва, стараўся знаходзіцца ў пастаянным пошуку. Пра гэта сведчаць і тыя работы, што шырока вядомыя, і тыя, што ёсць у калекцыях розных музеяў і не заўсёды выстаўляюцца. З 1930 года — «Скульптура ў архітэктуры» (цяпер — у Дзяржаўным музеі Каракалпакстана ў Нукусе, Узбекістан). Заснаваны маскоўскім скульптарам Ігарам Савіцкім (ён прыехаў у Нукус у 1950 годзе), музей утрымлівае 25 работ Айзенштата.

У 1930-я гады перад рэвалюцыйнай скульптурай стаяла задача паказаць тыя грандыёзныя змены, што адбываліся ў навакольным жыцці, у грамадстве: калектывізацыя, індустрыялізацыя... 1932 год адзначаны для Меера работай над дыпломам — «Сімфонія завода». Малады скульптар уводзіць у «індустрыяльную тэму» на першы погляд нечаканыя рашэнні: партал-уваход на металургічнае прадпрыемства ён разглядае ў ключы старажытнага жанру — «трыумфальная арка».

М. Айзенштата прынялі ў Саюз мастакоў у 1932 годзе. З запамінальных работ сярэдзіны 1930-х — «Партрэт дзяўчыны» (бюст, бронза), які захоўваецца ў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі. Дарэчы, у Траццякоўцы сёння ёсць і іншыя айзенштатаўскія творы — «Брыгадны камісар І. Агуроў» (1942, бюст, бронза), «Паэт М. Валошын» (1946, рэльеф, метал), «Авіятар і мастак К. Арцаулаў» (1948, бронза), якія прадстаўляюць разнапланавыя памкненні ў мастакоўскім пошуку таленавітага майстра.

Пікам творчага сталення ў 1930-я гады стаў для Меера Бенецыяновіча зварот да пушкінскай тэмы. Помнік вялікаму паэту работы Айзенштата быў усталяваны ў Омску. Дарэчы, пра заказы, замовы розных інстытуцый улады... Яны не так і рэдка паступалі да нашага земляка. Але часам здаралася так, што скульптар парушаў тэрміны. Нягледзячы на атрыманы аванс, увогуле адмаўляўся ад работы. І гэта было, хутчэй, ад таго, што майстар выстаўляў перад сабою надзвычай высокую планку, а не па прычыне неўтаймаванасці натуры ці гультаяватасці мастака.

У творчым багажы Меера Айзенштата — і дробная пластыка: «Бегемот» (1940, гіпс), «Ільвяня» (1940, фаянс), «Малпачка» (гіпс), «Марабу»... Сучаснікі скульптара сведчаць: звяртаючыся да выяў звяроў, птушак, ён у сваіх спробах не менш патрабавальны да сябе, чым у рабоце, напрыклад, над скульптурнай групай «Пугачоў перад суддзямі»...

Яркая асоба нашага клецкага земляка, які так рана пайшоў з жыцця (у 1961 годзе), патрабуе дэталёвага даследавання. Упэўнены: гэта будзе толькі на карысць — і гісторыі беларускага мастацтва, і гісторыі беларускай культуры ўвогуле.

...Некалі Заір Азгур напісаў: «Мастак убірае ў сябе ўсе фарбы свету і адлюстроўвае іх. Адлюстроўвае — але не скажае! Усялякае скажэнне прыніжае годнасць сапраўднага мастака, як бы гэта ні называлася: «навацыямі», «мадэрнам», «абстракцыянізмам» і г. д. Мора можа бурапеніцца, быць ціхім, можа штарміць, трыумфаваць. Але яно не ўмее падманваць!..» І мора вобразаў, мора сімвалаў скульптара Меера Айзенштата ўсяляе ў аматараў мастацтва, гледачоў пераканане ў сапраўднасці творчых адкрыццяў нашага земляка.

# Філосаф у літаратуразнаўстве

**Знаўца... Гэтае вызначэнне накладвае на чалавека асаблівую адказнасць. Яно становіцца адлюстраваннем яго вялікага вопыту і глыбокіх ведаў. А калі гэты чалавек — вучоны, даследчык, то і яго прафесійнага авалодання прадметам і аб'ектам даследавання.**

**Святлана КАЛЯДКА**

Літаратуразнаўцам назавеш далёка не кожнага, хто спрычыніўся да прыгожага пісьменства. Мала прааналізаваць наяўны матэрыял — гэта можа зрабіць і падрыхтаваны, спрактыкаваны студэнт філфака ці журфака, мала раскрытыкаваць няўдалы твор — з гэтым можа справіцца і дасведчаны чытач, а вось убачыць асобную з'яву ў сувязі з іншымі з'явамі літаратурнага працэсу, паглядзець на яе ў дынаміцы развіцця нацыянальнай літаратуры, у кантэксце найноўшых дасягненняў навукі пра чалавека, — тут трэба быць літаратуразнаўцам. Да такіх вучоных-літаратуразнаўцаў з шырокім кругаглядам, вялікім багажом ведаў, філасофскім падыходам да беларускай літаратуры і літаратараў належыць доктар філалагічных навук, загадчык аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Міхась Тычына.

Калі звярнуцца да яго навуковых прац, у прыватнасці, па тэорыі літаратуры, то ўбачым, што Міхася Аляксандравіча заўсёды цікавілі праблемы ўздзеяння эпохі «выбуху камунікацый» на літаратуру, яму важна было вызначыць межы выкарыстання тэарэтычных інавацый, завастрыць пытанне заснавання і асэнсавання найноўшай навуковай тэрміналогіі, «мовы думкі», разгалінаваць паняцці «літаратурнасць» і «мастацкасць», узняць праблемы эстэтычнага аналізу літаратурнага працэсу, творчага метаду, псіхалогіі творчасці, традыцый і наватарства, індывідуальнага стылю і г. д. М. Тычына ў навуковых працах выходзіць на значныя абагульненні, у якіх абазначае стратэгію, тактыку і цывілізацыйныя праблемы развіцця літаратуразнаўства і літаратуры ў доўгатэрміновай перспектыве, распрацоўвае магчымыя варыянты эфектыўнай рэалізацыі навукова-даследчых і літаратурна-мастацкіх праектаў.

М. Тычына — асоба першай велічыні ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве, ён з'яўляўся навуковым кіраўніком фундаментальнага даследавання «Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі эпохі фарміравання нацый» (1996 — 2000), што было выдадзена на беларускай (2002) і ўкраінскай (2003) мовах і атрымала прэмію кіраўнікоў Нацыянальных акадэмій Беларусі, Украіны і Малдовы (2004).

Міхась Аляксандравіч умела спалучае даследчую і навукова-арганізацыйную дзейнасць. Ён пачаў працаваць у сектары тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры АН БССР з кастрычніка 1970 года. З 1995 года пачынаецца яго дзейнасць у якасці загадчыка аддзела ўзаемасувязей літаратур, аднак яго «поле», якое трэба апрацоўваць і даводзіць да ладу, — гэта тэорыя літаратуры, і таму з верасня 1999 года М. Тычына ўзначальвае аддзел тэорыі літаратуры. З сектара тэорыі распачата навуковая дзейнасць, менавіта тут Віктар Каваленка, Алесь Адамовіч сталі яго настаўнікамі, блізкімі па духу калегамі і паплечнікамі, і па сённяшні дзень ён сам з'яўляецца навуковым кіраўніком, духоўным бацькам для многіх сваіх вучняў. Міхась Аляксандравіч не толькі высокакваліфікаваны спецыяліст у галіне тэарэтычнага літаратуразнаўства, ён першаадкрывальнік інавацыйных метадалагічных падыходаў да вывучэння сучаснай беларускай літаратуры, ім распрацаваны і ўведзены ў шырокі ўжытак ці пераасэнсаваны ў сувязі з новай культурнай сітуацыяй найважнейшыя тэарэтычныя паняцці, катэгорыі — «новы гістарызм», «паэтычныя мадэлі», «поле літаратуры», «дыфузія жанраў і стыляў», «праблема варыятыўнасці ў мастацтве» і інш.

Міхась Аляксандравіч валодае бліскучымі арганізатарскімі здольнасцямі, дзякуючы якім пад яго кіраўніцтвам супрацоўнікамі інстытута выканана каля дзесяці планавых калектыўных фундаментальных даследаванняў.

Першы навуковы артыкул М. Тычыны «У лабараторыі пісьменніка» быў апублікаваны ў часопісе «Маладосць» у 1970 годзе. Увогуле, за часы працы ў інстытуце ім напісана 15 навуковых манаграфій (у тым ліку ў суаўтарстве), 4 зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў, а таксама больш як 400 навуковых работ у беларускіх, расійскіх, украінскіх, польскіх, літоўскіх выданнях (многія з якіх перакладзеныя на англійскую, нямецкую, іспанскую, венгерскую мовы), не лічачы пры гэтым шматлікія даклады на міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях і навукова-папулярныя артыкулы. Міхась Аляксандравіч — адзін з аўтараў акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.», падручнікаў па беларускай літаратуры для 9 — 11 класаў сярэдняй школы, школьных праграм, член рэдакцыйнай калегіі часопіса «Роднае слова». Член вучонага савета Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, савета па абароне дысертацый пры Інстытуце мовы і літаратуры, старшыня навукова-метадычнага семінара. Ён лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка за кнігу «Аляксандр Пушкін і Якуб Колас» (2000), літаратурных прэмій «Литературной газеты» (Масква), часопісаў «Маладосць», «Полымя», «Беларусь». А ў далёкія 1970 — 80-я гады М. Тычына быў лектарам таварыства «Знание», вучоным сакратаром Тэрміналагічнай камісіі пры Аддзяленні грамадскіх навук, членам бюро секцыі крытыкі СП БССР... І гэта яшчэ не поўны пералік таго, да чаго спрычыніўся таленавіты вучоны.

На «літаратуразнаўчым полі» даследаванняў М. Тычыны сыходзяцца такія цікавыя, неардынарныя пісьменнікі, як Кузьма Чорны, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Віктар Казько, Алесь Разанаў, Аляксей Дудараў, Іван Шамякін... У кожным з іх Міхась Аляксандравіч знаходзіць тое адметнае, унікальнае, індывідуальнае, што робіць гэтых пісьменнікаў асобамі ў беларускай літаратуры і культуры, што дазваляе імі ганарыцца і за межамі краіны. У біяграфіі даследчыка былі і літаратурныя творы: «Дажынкі. Аповесць і апавяданні» (1979); «Вяртанне: Аповесць пра Кузьму Чорнага» (1984), а таксама вершы.

Сярод апошніх прац Міхася Аляксандравіча — «Вялікія і Малыя Тычыны: легенды і рэальнасць: [зборнік літаратурна-дакументальных матэрыялаў пра беларускі і ўкраінскі род Тычынаў]» (2011), манаграфія «Янка Купала і Якуб Колас: учора і сёння» (2012). У першай ён даследуе гісторыю свайго радаводу, звяртаючыся да ўспамінаў родных, сяброў, да архіўных дакументаў; падае ў манаграфіі сучаснае прачытанне і каменціраванне вядомых і малавядомых твораў Паўла Тычыны; прыводзіць жыццяпіс, суправаджаючы дакументальныя факты вершамі знакамітага ўкраінскага паэта і г. д. У другой — прадстаўляе манументальнае даследаванне творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кантэксце дзяржаўна-культурнага будаўніцтва Беларусі, у святле найноўшых метадалагічных падыходаў аналізуе творы беларускіх песняроў. Усё ж, каб гаварыць пра класікаў літаратуры пасля ранейшых уласных і шматлікіх іншых даследаванняў вядомых вучоных, трэба не толькі паглядзець па-новаму на сто разоў агледжанае, агульнаасэнсаванае, прынятае за норму і г. д., але і раскрыць яго як невядомае вядомае... І гэта М. Тычыну даецца проста, лёгка, нязмушана, нібыта літаратуразнаўчыя адкрыцці не выношваюцца ім, не патрабуюць глыбокага роздуму, а вылятаюць з-пад пяра як раптоўныя «откровения».

У кожнага даследчыка ёсць аўтары, якіх хочацца чытаць і перачытваць, вучыцца ў іх, спасцігаць іх творчую «кухню», увесь час імкнучыся дасягнуць іх прафесійнага ўзроўню... У мяне сярод такіх аўтараў — літаратуразнаўца, крытык, нарысіст, публіцыст, празаік, філосаф Міхась Аляксандравіч Тычына.

# Роздум над адным вершам



*Пётра Сергіевіч. Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года. 1955.*

**Іван САВЕРЧАНКА**

*Марыська чарнаброва, галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая?*

У сярэднія вякі і ў XIX ст. у міжнародных адносінах дамінаваў прынцып сілы. Той, хто меў вайсковыя і эканамічныя перавагі, — той і панаваў над іншымі. Вялікае Княства Літоўскае і Польшча аказаліся слабейшымі за суседзяў, і ў выніку — пры канцы XVIII ст. — яны былі знішчаны як самастойныя дзяржавы. Тэрыторыю раздзялілі больш магутныя і агрэсіўныя суседзі, беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Аднак неўзабаве, ужо ў новых умовах, пачалі з'яўляцца сілы, якія выступілі з ідэяй беларускага нацыянальнага адраджэння і ўзнаўлення дзяржаўнасці. Прычым, варта не забываць, што К. Каліноўскі не выступаў супраць рускага народа, ён змагаўся з царызмам і яго палітыкай на Беларусі. І ён, і яго аднадумцы выдатна ўсведамлялі магутнасць імперыі. Яны цудоўна бачылі непадрыхтаванасць беларускіх сялян да паслядоўнага змагання за ўласныя правы. Але яны не збаяліся, абаперліся менавіта на простых людзей і адкрыта выступілі супраць невымернай сілы. К. Каліноўскі ведаў, што ў пачатку мусіць быць слова, асвета, яднанне аднадумцаў. Менавіта таму ён і стварыў друкаваны орган — газету «Мужыцкая праўда», якая сталася найважнейшым сродкам агітацыі і кансалідавання нацыі.

*Усё прайшло, прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшна горыч у грудзях застала.*

Жорсткі час нараджаў жорсткія спосабы і сродкі вырашэння грамадскіх канфліктаў. Каліноўскі выдатна ўсведамляў жыццёвыя рэаліі.

Падзялюся маімі асабістымі ўяўленнямі пра тыя ўрокі, якія падае гераічная дзейнасць Кастуся Каліноўскага і яго палымяная публіцыстычная спадчына. Найперш, заўсёды варта ставіць дасягальныя мэты і выканальныя задачы, прычым як у асабістым, так і ў грамадскім жыцці. Па-другое, належыць спакойна вырашаць праблемы і разважліва пераадольваць усе перашкоды на шляху да мэты, дзейнічаць абачліва, рухацца крок за крокам. Ніколі не варта агрэсіўна ставіцца да іншых, нават да ворагаў і апанентаў, нельга запускаць у сваё сэрца зло і нянавісць. Канструктыўнае супрацоўніцтва і кампрамісы, няспынная праца над сабой — найлепшы шлях да асабістага поспеху і ўсталявання грамадскага дабра.

*Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці*
*Ды ў прадвечнага суду вялеў прападаці...*

У канфесійных пытаннях, як мне ўяўляецца, выявілася абмежаванасць К. Каліноўскага. Пытанні веры належаць да асабістых і прыватных. Свабода сумлення — фундаментальная каштоўнасць, і кожны павінен мець права свабодна адпраўляць тыя рытуалы, якія яму блізкія і якія адпавядаюць яго светапогляду. Палітычнае лідарства і канфесійная заангажаванасць — рэчы несумяшчальныя. Але, па ўсім відаць, К. Каліноўскі меў рацыю, калі засцерагаў ад празмернага зрошчвання царквы і дзяржавы, што акурат мела месца ў Расійскай імперыі.

*То мы прападзем марна, но праўды не кінем,*
*Хутчэй неба і шчасце, як праўду, абмінем...*

Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага адбылося і было жорстка задушана імперскімі акупацыйнымі войскамі. Інтэлектуальнаму лідару паўстання, аднаму з найбольш адукаваных людзей свайго часу, К. Каліноўскаму быў вынесены смяротны прысуд. Падчас паўстання выявіліся лепшыя рысы нязломных змагароў за Беларусь. Гэта быў велічны і адначасна трагічны момант у гісторыі, дзе мела месца гераічнае і высакароднае, але сустракаліся таксама маладушнасць і нават здрада. Справа Каліноўскага ўрэшце перамагла. Дзякуючы менавіта такім волатам духу, як К. Каліноўскі, мы сёння маем уласную дзяржаву, урад, адукаванае грамадства.

*Бывай здаровы,*
*мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці,*
*жыві ў свабодзе...*

Кастусь Каліноўскі прагнуў палітычнага, нацыянальнага і эканамічнага вызвалення беларускага народа і ўсіх народаў Расійскай імперыі. Ён марыў пра стварэнне нацыянальнай дзяржавы і народнага ўрада, які б эфектыўна абараняў краіну ад знешніх ворагаў і забяспечваў правы грамадзян. Царская ўлада з'яўлялася галоўным бар'ерам на шляху рэформ і грамадскага прагрэсу. Таму галоўнай тактычнай задачай для ідэолага і лідара паўстання было знішчэнне царызму, манархіі і расійскай дзяржаўнай бюракратыі. К. Каліноўскі выступаў за пабудову дэмакратычнай і прававой дзяржавы, за ўсталяванне на Беларусі справядлівай судовай сістэмы. Да несумненных заслуг К. Каліноўскага належыць і тое, што ён патрабаваў развіцця асветы і адукацыі на беларускай мове, заклікаў да выхавання моладзі на грунце нацыянальных каштоўнасцей.

*І часам спамяні пра Яська свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго.*

Кастусь Каліноўскі — велічная і сапраўды гераічная постаць нацыянальнай гісторыі, чалавек слова і гонару, надзвычай шчыры і самаахвярны. Сэрцам і розумам ён адчуў неабходнасць служэння беларускаму народу. Разняволенне нацыянальнага духу, вырашэнне сацыяльных праблем, дасягненне шчасця для ўсіх людзей — сэнс і місія дзейнасці героя. Высокія ідэалы свабоды, роўнасці і справядлівасці для Кастуся Каліноўскага — вышэй за ўласнае жыццё. Тут ён выяўляецца як рамантык і нацыянальны прарок.

*А калі слова пяройдзе у дзела,*
*Тады за праўду станавіся смела...*

Відавочна, што Кастусь Каліноўскі мужны ў сваіх словах і гераічны ва ўчынках. Адкрытае выступленне з крытыкай царскага самаўладдзя у тагачасных умовах патрабавала незвычайнай асабістай мужнасці. Дзеля ўвасаблення палітычнай праграмы Каліноўскі ўзначаліў узброенае паўстанне і ахвяраваў сабой. Скласці асабістае жыццё за шчасце іншых — гэта і ёсць подзвіг!

*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, народзе, старасці свабодна.*

У XIX ст. кожны рабіў свой выбар і дзейнічаў у адпаведнасці з уласным светапоглядам і ўласнымі жыццёвымі прынцыпамі. Ніхто ў адзіночку не мог вырашыць шматузроўневае і складанае пытанне адраджэння нацыі і ўтварэння самастойнай дзяржавы. Патрэбныя былі высілкі многіх людзей. Вельмі шмат для фарміравання нацыянальнай свядомасці ў той час зрабілі філолагі, літаратары і этнографы. Іх імёны гэтаксама заслугоўваюць ушанавання і ўвагі з боку нашчадкаў.

28 студзеня споўнілася б 70 гадоў з дня нараджэння аднаго з самых вядомых беларускіх кінарэжысёраў, народнага артыста Беларусі — Міхаіла Пташука. Да гэтай даты часопіс «Нёман» надрукаваў успаміны сяброў і вучняў майстра. Пісьменніца Раіса Баравікова ўгледзелася ў неба Міхаіла Пташука ды прыгадала самыя яскравыя моманты іх трыццацігадовага сяброўства: ад сустрэчы на прыступках Літінстытута да завочнай вандроўкі ў Індыю. Андрэй Голубеў, Яўген Сяцько, Максім Субоцін ды Людміла Дуброўская — вучні Міхаіла Мікалаевіча — распавялі пра дзядзьку Мішу і лад жыцця маленькай кінематаграфічнай камуны, куды яны патрапілі, паступіўшы на курс да майстра. Адзін з гэтых маналогаў мы сёння прапануем увазе чытачоў. Астатнія — у першым нумары гэтага года часопіса «Нёман».


Міхаіл Пташук на здымках свайго апошняга фільма.

Андрэй Голубеў

# Маналог пра чалавека, які згроб у ахапку

Я прыйшоў на курс, калі мне было 27 гадоў. Крыху камічная атрымалася гісторыя. Пташук тады запускаўся з фільмам «У жніўні 44-га...». Праца толькі пачалася, Міхаіл Мікалаевіч размаўляў з акцёрамі: у кабінеце сядзелі Аляксей Пятрэнка і Яўген Міронаў.

Я быў адным з каскадзёраў і раптам даведаўся, што Пташук на пачатку лета будзе набіраць курс у Акадэміі мастацтваў. На той час я меў 11-гадовы вопыт працы ў кіно: былі ролі, добрая практыка з добрымі рэжысёрамі. Я прыйшоў да Пташука ў кабінет (там якраз Пятрэнка з Міронавым), ён мяне пазнаў. «Міхаіл Мікалаевіч, акрамя таго, што я буду працаваць у вас каскадзёрам, я б вельмі хацеў паступіць да вас на курс». Ён запытаўся: «Колькі табе гадоў?» Я адказаў. Не буду цытаваць, што пачуў, але сэнс зводзіўся да таго, што я стары. Усе пасмяяліся, а мне давялося выйсці з кабінета. Выйшаў, запаліў, пахадзіў і падумаў: «Няўжо ўсё ў жыцці так проста?! Зайшоў, сказалі, што стары, — і канец кар'еры і марам...» А я ж пісаў: апавяданні, гісторыі. Партфолія ў мяне не было, але былі сцэнарыі, якія б мне хацелася запусціць.

Пахадзіў я, пахадзіў і думаю — зайду яшчэ раз. Быў ужо крышку нахабней. Міхаіл Мікалаевіч сказаў: «Паказвай, што ты там пішаш». І потым я ўжо паступаў на агульных падставах. Але, напэўна, выбраў мяне Пташук яшчэ тады, таму што я характар паказаў, настойлівасць...

На другім курсе я захацеў здымаць на плёнку. Мне заўсёды хацелася быць наперадзе (спартыўны азарт і юнацкі максімалізм, які мне ўсё жыццё перашкаджае). І ўсе ўжо здалі сцэнарыі на новыя кароткаметражкі, а я ніяк не мог зацвердзіць. Ці то 12, ці то 13 напісаў — усё не тое. А Міхаіл Мікалаевіч гэтыя работы нават не чытаў. Прыходзіш да яго са сцэнарыем, а ён на яго так руку пакладзе (у Міхаіла Мікалаевіча вялікія рукі былі), зірне і пытаецца: «Пра што гісторыя?» Я распавядаю: «Хлопчык і дзяўчынка, сябравалі, потым ён паехаў на вайну, а яна сустракалася з іншым...» Ён кажа: «Напішаш у лісце да бабулі (яго любімы выраз быў — **А. Г.**). Дрэнна. Што яшчэ?» Я адказваю: «Пакуль нічога». Ён кажа: «Пішы». І так 13 разоў! Потым, калі я ў апошні раз да яго прыйшоў (стомлены, з кругамі пад вачыма), ён таксама руку паклаў: «Пра што гісторыя?» Я распавядаю: «Пра тое, як бацька забівае свайго сына». Міхаіл Мікалаевіч пытаецца: «Іван Грозны?» «Не, — кажу, — сучасная гісторыя». І ён: «Вось гэта цікава». Узяў і прачытаў. Ён цаніў час. Не ўмеў ісці на кампрамісы. У нейкі момант мне так крыўдна стала: я напісаў 13 сцэнарыяў, а ён не тлумачыць, дзе і чаму дрэнна. Жорсткая школа была — ты павінен быў сябе ламаць-ламаць-ламаць і, нарэшце, зламаць. На адным з першых заняткаў Міхаіл Мікалаевіч сказаў: «Перш-наперш трэба адказаць самому сабе: навошта ты хочаш гэта здымаць?» Калі б усе рэжысёры былі шчырымі, тады ў нас усё добра з кіно было б...

Мы яго называлі дзядзька Міша (яму падабалася). А ў Акадэміі яго называлі бранепоездам ці самалётам, таму што Пташука спачатку было чутно і толькі потым бачна: ідзе, павітаецца, некага хлопне па плячы — рэха Акадэміі яго падхоплівала. Увогуле, атмасфера на курсе была хатняя, утульная. Сядзелі, размаўлялі. Маглі нават за півам збегаць. Міхаіл Мікалаевіч любіў запрашаць нас да сябе. Мы збіраліся каля Стэлы, на колішнім праспекце Машэрава. Збіраліся са сваімі касетамі, пробамі, сцэнарыямі — і ўсе думалі, што зараз Міхаіл Мікалаевіч будзе разбіраць і дасць прыкурыць. Думалі, хто будзе першы паказваць. «Дзяніс, у цябе ўсё зроблена? Ці ў Макса? Значыць, з цябе пачынаем, каб разрадзіць абстаноўку, а потым мы». Усё роўна атрымлівалася не так. Міхаіл Мікалаевіч заўсёды дзейнічаў ад адваротнага. І нас так вучыў: рабіце тое, чаго ад вас не чакаюць. І вось мы прыходзілі да яго. Ён накрываў на стол. У дзядзькі Мішы гэта вельмі добра атрымоўвалася. Мне здаецца, што ён рабіў гэта пацыху ад Ліліі Міхайлаўны. Міхаіл Мікалаевіч кахаў яе, і побач з ёй уся «суворасць» некуды знікала, ён станавіўся закаханым юнаком.

Увогуле, шмат што са сказанага Міхаілам Мікалаевічам ты пачынаеш разумець толькі цяпер. Тое, што заклаў у нас дзядзька Міша, — як бомба запавольнага дзеяння. Я заўсёды казаў сваім аднакурснікам: мы ў Беларусі як стратэгічная сыравіна. Зарад, які будзе ўзрывацца, узрывацца і ўзрывацца. На гэта нельга забыцца. Галоўнае, чаму ён нас навучыў, — патрабавальнасць да сябе. Я ведаю, за якія б недахопы ён пасварыўся на мяне, напрыклад, у маёй стужцы «Чаклун і Румба». У жыцці заўсёды даводзіцца ісці на кампраміс. Таму што ты прыязджаеш на здымачную пляцоўку, а ў цябе і таго няма, і таго, і таго. Вось я прыязджаю аднойчы, а ў мяне дэкарацыю спалілі. На дзяржаўнай кінастудыі... Міхаіл Мікалаевіч не ўмеў ісці на кампрамісы. Я імкнуся быць на здымачнай пляцоўцы такім жа, як і ён. Часам цяжка: у кожнага свой характар, і робіш калі-нікалі непрыгожыя ўчынкі. Яму ўдавалася быць на здымачнай пляцоўцы сваім і недасяжным адначасова. Я пакуль што так не магу.

Трэба быць шчырым з сабою. Менавіта з гэтага і нараджаецца майстар, які адчувае незадаволенасць сабой. А гэта — першая прыступка на шляху да Бога. Калі кожны з нас будзе незадаволены сабой (хакеіст, журналіст, рэжысёр — няважна), тады ўсё будзе добра. Мы павінны любіць тое, чым займаемся. Але любіць — гэта не значыць насіць плашч і капялюш з палямі: я рэжысёр. Гэта вельмі цяжкая прафесія. Трэба затрацiцца. І я ведаю, як Міхаіл Мікалаевіч любіў гэтую прафесію. Ён быў неверагодна шчаслівым ад таго, што займаецца кіно. Яго любімае слова было «Матор!»

**Запісала Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, фота Аляксандра Дзмітрыева**

# Вяртанне да бацькоўскага поля

На нядаўнім пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі сярод іншых ініцыятыў былі агучаныя прапановы па мемарыялізацыі памяці пра пісьменнікаў. Што ж, здавалася б, нічога дрэннага ў гэтым няма. Хаця мне асабіста падаецца слушнай заўвага на гэты конт з боку кіраўніка творчага саюза Мікалая Чаргінца пра тое, што ўсталяванне шыльдаў, наданне назваў вуліцам, іншыя мемарыяльныя ініцыятывы судакранаюцца з няпростымі перашкодамі заканадаўчага, адміністрацыйнага характару.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

І падумалася тады, на пленуме, яшчэ вось пра што. У пісьменнікаў ёсць немалы рэсурс дзеля захавання памяці пра папярэднікаў: трэба часцей згадваць іх у друку. І ў літаратурна-мастацкіх выданнях, і ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах.

Памёр колькі гадоў таму магілёўскі паэт Міхась Карпенка (нарадзіўся ў 1930 годзе ў хоцімскай вёсцы Максімаўка. Жыў, выйшаўшы на пенсію, з пачатку 1990-х таксама на Хоцімшчыне — у вёсцы Чарняўка). Няма, на жаль, яго біяграфіі ні ў шасцітомніку «Беларускія пісьменнікі», ні ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», ні ў «Беларускай Энцыклапедыі». Не заслужыў, атрымліваецца. Можа быць, успомняць пра Карпенку ў «Культуры Беларусі»?..

Лёс пакручасты. Апошняя кніга паэта пабачыла свет у Мінску — у 2001 годзе. Назва — «Бацькоўскае поле». Пад адной вокладкай — вершы (іх 16) і паэма, якая дала назву ўсёй кнізе. Паэма, у якой Міхась Фядотавіч узнавіў гісторыю свайго роднага паселішча ў гады калектывізацыі, у Вялікую Айчынную, выклаў лёс свайго бацькі. Пісаў па-руску. А пачынаў на беларускай мове... Ды так распарадзілася жыццё, што ў літаратуру, у паэзію ён «уцякаў» ад штодзённай журналістыкі, якой займаўся ў Туркменістане.

...Пасля сямігодкі Міхась Карпенка паступіў у Гродзенскае культасветвучылішча. Тут упершыню і выступіў у друку — у абласной газеце «Гродзенская праўда». З падтрымкі Міхася Васілька, пра якога пасля заўсёды ўспамінаў толькі добрым словам. Закончыўшы вучылішча, звязаў лёс з журналістыкай. Працаваў у «Магілёўскай праўдзе», «Піянеры Беларусі». З тых 1950 — 1960-х гадоў — знаёмства, добрыя стасункі з Адамам Мальдзісам, Максімам Танкам. У 1964 годзе Міхася Фядотавіча пасля заканчэння Цэнтральнай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ накіравалі ў Туркменістан. Спярша працаваў у Краснаводску. І не мог не пісаць вершы. Але ўжо па-руску...

З'явіліся новыя сябры. Тады з журналістыкі ў рускую літаратуру Туркменістана ішлі Валянцін Рыбін, Васіль Шаталаў, Юрый Рабінін, Мікалай Залатароў... Пачаўшы актыўна друкавацца ў рускамоўнай перыёдыцы Ашхабада, Міхась Фядотавіч да 1991 года паспеў выдаць ці не дзясятак вершаваных зборнікаў...

Я пазнаёміўся з Карпенкам у сярэдзіне 1980-х, калі прыехаў па размеркаванні ў Ашхабад. Пра Міхася Фядотавіча ведалі ўсе тамтэйшыя беларусы. Карпенка для ўсіх знаходзіў час. Дапамагаў як мог. Журналістаў, літаратараў друкаваў у «Ташаузской правде». А гэта — ганарары, магчымасць зарабіць нейкую капейчыну, што і для творчага люду заўсёды было актуальным.

У сувязі з 60-годдзем вядомага ў Туркменістане журналіста адзначылі званнем заслужанага работніка культуры рэспублікі. А ў галаве былі думкі пра адно — вяртанне дамоў, у Беларусь. Амаль 40 гадоў аддаўшы Туркменістану, ён заставаўся сынам роднай Хоцімшчыны. Таму і хату купіў у Чарняўцы. Але вяртанне было няпростым... Пра гэта сведчыць і адзін з лістоў Міхася Фядотавіча, які ён адрасаваў мне 8 ліпеня 1997 года. У ім — і напружанне першых постсавецкіх гадоў, і мысленне таго часу... «Дарагі Алесь, добры дзень!

Толькі што аддыхаўся і прыйшоў у сябе ад туркменскай спякоты. І нервовых перажыванняў. Вырашыў напісаць Вам ліст.

У Туркменіі я пражыў паўгода. Паехалі з жонкай перад Новым годам. Ехалі з Масквы цягніком праз Ташкент, таму што цягнік на Туркменію даўно адмянілі. У Ташкенце пераселі на каракалпакскі цягнік і даехалі да Ташауза. Гэтае «задавальненне» запатрабавала сем дзён.

Адразу ж пасля прыезду накіраваліся мы атрымліваць маю пенсію. Але яе мне не выдалі. Абяцалі з дня на дзень. Валакіта зацягнулася на 4 месяцы. У Міністэрстве сацзабеспячэння зрабілі вывад, што я атрымліваў пенсію ў Хоцімскім райсабесе, што мяне моцна прынізіла і пакрыўдзіла. У Ашхабадзе стаў хадайнічаць за мяне Васіль Шаталаў (пісьменнік). Намеснік міністра Аразаліеў сказаў Васілю, што «на Карпенка рыхтуюць крымінал». З Ашхабада зрабілі запыт у Хоцімскі райсабес. І толькі пасля таго, як прыйшоў ліст у адказ, што я не меў нават прапіскі, не з'яўляюся грамадзянінам Беларусі, ніякай пенсіі не атрымліваў, — пенсію мне за два гады выдалі. Інфляцыя яе амаль што ўсю з'ела. На гэтыя грашы я змог толькі купіць білет на самалёт ад Ашхабада да Масквы.

Пенсійную справу ў Ашхабадзе мне на рукі не выдалі, а выдалі даведкі для прад'яўлення па месцы пастаяннага жыхарства, Хоцімскаму райсабесу. Валакіта і тут зацягнулася. Робіцца запыты ў Ашхабад, а адтуль адказы не паступаюць. Вось як дрэнна быць персанальным пенсіянерам...»

Перапыню цытаванне, каб зазначыць, што яшчэ з партыйных часоў Міхась Фядотавіч быў добра знаёмы з Сапармурадам Ніязавым. Як і раней, ставіўся да яго з павагай. Але вось з-за сціпласці, разумення, што ў 1990-я дыстанцыя паміж шараговым пенсіянерам і прэзідэнтам Туркменістана аказалася зусім іншая, да Ніязава звяртацца не стаў.

Не заўсёды мелася магчымасць дапамагчы паэту, журналісту. Дзякуй «Звяздзе» і «Народнай газеце», якія тады, у 1990-я, на пачатку 2000-х, далі матэрыялы пра розныя жыццёвыя перыпетыі, складанасці ў лёсе заслужанага сына сваёй Радзімы.

Недзе (верагодна, у Чарняўцы, дзе жыве сын пісьменніка Сяргей Міхайлавіч) застаўся архіў літаратара. Відаць, не ўсё надрукавана. Бо не памятаю, што недзе, за выключэннем кнігі «Бацькоўскае поле», Міхась Фядотавіч друкаваўся. Засталіся, магчыма, і лісты, перапіска з тым жа Мікалаем Калінковічам — рускім і беларускім пісьменнікам, які таксама пэўную частку свайго жыцця аддаў Туркменістану. З Міхасём Карпенкам сустракаўся ў Ташаузе і Маскве (на апошнім з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР) і наш вядомы беларускі празаік і драматург Васіль Ткачоў. Працавалі ў 1960 — 1990-я гг. у туркменскай журналістыцы і іншыя ўраджэнцы Беларусі. У тым ліку — радыёжурналіст Уладзімір Грачоў, галоўны рэдактар рэспубліканскай партыйнай газеты «Туркменская искра» Васіль Слушнік... Многіх з гэтай кагорты яднала з Міхасём Фядотавічам шчырая дружба. Чаму б не ўспомніць пра гэта, а адпаведна і пра паэта і добрага чалавека, чаму б не перавыдаць яго творы?

Мо спрычыніцца да гэтай справы і Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі?..

# Эстонская опера ў Мінску

**З 8 па 13 лютага ў Мінску гастралюе Нацыянальная опера «Эстонія». На працягу тыдня калектыў прадставіць на сцэне Вялікага тэатра Беларусі лепшыя спектаклі са свайго багатага рэпертуару. Пра супрацоўніцтва двух тэатраў, праграму гастроляў і сённяшні дзень Нацыянальнай оперы «Эстонія» расказаў кіраўнік трупы Март Мік.**

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ,**
**фота прадастаўлена Нацыянальнай операй «Эстонія»**

**— Не толькі эстонская опера прыязджае ў Беларусь, але і спектаклі Вялікага тэатра оперы і балета будуць паказаны ў Таліне...**

— У наш час цэлым тэатрам падарожнічаць па іншых краінах даволі цяжка з эканамічнага пункту гледжання. Але з'явілася ідэя зрабіць не камерцыйныя гастролі, а проста памяняцца сцэнамі на тыдзень. Мы ўжо маем удалы вопыт такога супрацоўніцтва з латвійскай і літоўскай нацыянальнымі операмі. Гэта вельмі добра і для калектываў, і для публікі, і для развіцця культурных сувязей паміж краінамі. З Вялікім тэатрам Беларусі ў 2011 годзе мы падпісалі дамову аб супрацоўніцтве, так што такі працяг нашага сяброўства ў выглядзе абменных гастроляў цалкам заканамерны.

**— Па якім прынцыпе вы складалі рэпертуар для паказу ў Беларусі?**

— Па-першае, мы выбіралі спектаклі, якія выклікаюць цікавасць у беларускай публікі. Калі прывезці ў Мінск нават вельмі добры спектакль на эстонскай мове, нашым калегам будзе цяжка яго прадаць. Па-другое, ацэньвалі з тэхнічнага пункту гледжання. У нашых тэатрах розныя па памеры і тэхнічных характарыстыках сцэны. І, вядома ж, мы зацікаўлены ў тым, каб прадставіць нашу трупу, наш тэатр найлепшым чынам. Таму падабралі такі пакет спектакляў, які выглядае стыльна і цэльна.

Паколькі мы — нацыянальны тэатр, наша мэта — знаёміць публіку з цікавым музычным матэрыялам. Напрыклад, «Манон Леско» Дж. Пучыні ніколі не ставілася ні ў вашым, ні ў нашым тэатры. У пару да гэтай оперы мы пакажам балет «Манон» Ж. Маснэ. Дарэчы, у нас у рэпертуары ёсць некалькі такіх «дуэтаў», дзе адна і тая ж гісторыя раскрываецца рознымі мастацкімі сродкамі. Гэткі «жарт» мае камерцыйны поспех і з вялікай цікавасцю ўспрымаецца гледачамі.

**— Таму і нам вы прывезлі адну такую пару?**

— Балет «Манон» у харэаграфіі сэра Кенэта МакМілана ідзе не на шмат якіх сцэнах: дазвол на пастаноўку даецца толькі тым тэатрам, якія паказалі, што ў іх ёсць трупа высокага ўзроўню. А што датычыць оперы «Манон Леско», то яна стала першым і самым відавочным поспехам Пучыні. Гэта вельмі цікавы твор, на нашай сцэне яго паставіў Андрэйс Жагарс, акцёр, рэжысёр, генеральны дырэктар Латвійскай нацыянальнай оперы. Хтосьці яго любіць, хтосьці ненавідзіць, але ніхто не застаецца абыякавым. Яго «Манон Леско» — гэта сапраўды рэжысёрскі спектакль, які варта паглядзець, каб скласці сваё меркаванне. Мы спецыяльна пакажам спектакль двойчы — 8 і 10 лютага, каб усе жадаючыя змаглі яго ўбачыць. Увогуле, я падтрымліваю любы арыгінальны падыход, калі ён дапамагае публіцы зразумець оперу. Між іншым, гэта ідэальны для ўспрымання від мастацтва: і зрокам, і слыхам, і пачуццямі.



*«Манон».*



*«Травіята».*

**— У рэпертуары вашага тэатра ёсць і традыцыйныя па рэжысуры оперы, і авангард...**

— Тая ж «Травіята», якую ў Мінску можна будзе ўбачыць 9 лютага, пастаўлена як бы ў класічным ключы, але ў цэлым гэта даволі інавацыйны спектакль, хоць дзеянне і не ў космасе адбываецца.

Мы спецыяльна прадумвалі рэпертуар для беларускіх гастроляў. «Травіята» і балет «Шчаўкунок» (будзе паказаны 13 лютага) ёсць у афішы вашага тэатра, і мы вязём гэтыя спектаклі, каб публіка магла параўнаць беларускі і эстонскі варыянты.

**— Вашаму тэатру ўжо больш як сто гадоў, у яго вельмі багатая творчая гісторыя, і многія людзі, асабліва жыхары СНД, ведаюць оперу «Эстонія» таму, што ў ёй працаваў знакаміты Георг Отс. Ці ёсць сёння ў калектыве зоркі, якіх можна супаставіць з ім па маштабе?**

— Георг Отс часта бываў у нас дома, так што я магу ганарыцца тым, што быў знаёмы з ім асабіста. А наша сённяшняя трупа вельмі маладая. Мы стараемся рабіць так, каб у спектаклях не было першага, другога або трэцяга складу, каб узровень нашых пастановак заўсёды быў стабільна высокі. І прыемна, што людзі ведаюць і любяць нашых салістаў, сярод якіх сапрана Хелі Вескус, Айле Асзоній, Крыстэль П'яртна, мецца-сапрана Хелен Лакута, тэнары Март Мадыстэ і Олівер Куусік, барытоны Раўна Элп і Ясі Захараў, басы Прыіт Волмер і Март Лаўр.

Усяго ў ансамблі 18 салістаў. І хоць у нашай трупе ўсе вельмі добрыя выканаўцы, мы ўсё ж часам запрашаем гасцей. Вядома, нам не па кішэні ганарары, якія просяць спевакі сусветнага ўзроўню. У нас у зале 700 месцаў, а самыя дарагія білеты каштуюць каля 30 еўра. Адпаведна, шукаем іншыя варыянты, каб задаволіць публіку. Запрашаем маладых перспектыўных салістаў, у якіх усё наперадзе і якім цікава набірацца вопыту і спяваць у іншых тэатрах.

**— Як, напрыклад, саліста Вялікага тэатра Беларусі Ілью Сільчукова, які ў снежні мінулага года атрымаў ангажэмент ад вашага тэатра на конкурсе выканаўцаў італьянскага рэпертуару Competizione dell'Opera...**

— Так. Ілью Сільчукова я памятаю яшчэ па Міжнародным конкурсе маладых вакалістаў імя К. Таэў, які праводзіцца ў Пярну. А ў нашым рэпертуары для такога лірычнага барытона, як Ілья, дастаткова магчымасцей, таму мы з радасцю яго прымем і прапануем што-небудзь цікавае.

# Падзяліцца святлом

**Аказваецца, стварыць свой уласны сусвет нескладана, калі ў цябе ў руках іголка і шаўковая нітка. Дадайце да іх натхненне, крыху вольнага часу, цярпенне — і вынікі не прымусяць сябе доўга чакаць. Не верыце? Зазірніце хоць на хвілінку на выстаўку вышываных карцін «Душы маёй чароўнае святло» клуба «Сузор'е», якая будзе праходзіць да 17 лютага ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**



*Мая Каспяровіч. Макавае поле.*

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Гісторыя вышыўкі сягае ў глыбіню стагоддзяў: ад старажытнасці жанчыны імкнуліся ўпрыгожыць адзенне, пэўныя побытавыя рэчы. Яшчэ сто год таму дзяўчынкі з дзяцінства пачыналі рыхтаваць сабе пасаг, і вышыўка адыгрывала ў ім не апошнюю ролю. Часам нават ладзіліся своеасаблівыя выстаўкі, на якіх жаніх мог пабачыць вынікі працы будучай жонкі дый такім чынам высветліць, добрая з яе выйдзе гаспадыня ці не.

Змяніліся час і звычаі, але не змяніліся жанчыны. Адклаўшы ўбок турботы паўсядзённасці, яны, акурат як іх бабулі, бяруцца за вышыўку і працягваюць ствараць новыя вобразы, укладаючы ў кожную работу часцінку сваёй душы — нездарма варта толькі ўпрыгожыць такім творам дом, як становіцца цёпла і ўтульна.

Менавіта такія жанчыны, аб'яднаныя любоўю да вышыўкі, і стварылі ў снежні 2007 года клуб «Сузор'е». На сёння за плячыма майстрых больш як дзясятак выставак, іх творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Амерыцы, Германіі, Іспаніі, Францыі, Расіі і інш. І гэта пры тым, што практычна ўсе кабеты маюць любімую працу, сем'і, штодзень сутыкаюцца з пэўнымі праблемамі і клопатамі. Але і гэта не мяжа — вышывальшчыцы клуба з'яўляюцца сябрамі Беларускага саюза жанчын, знаходзяць час займацца дабрачыннасцю: апякуюцца лагойскім домам-інтэрнатам для састарэлых і інвалідаў, праводзяць дабрачынныя акцыі, сумесныя выстаўкі, дорачы цяпло і радасць людзям.

На выстаўцы «Душы маёй чароўнае святло» прадстаўлена 41 разнапланавая работа, кожны твор адкрывае чароўны свет сучаснай вышыўкі, дае прастору для ўяўлення.

Вышывальшчыцы ствараюць свае работы ў розных тэхніках — тут і крыж, і паўкрыж, габеленавае шво, ручная гладзь, машынная мастацкая гладзь.

— Прадстаўленая выстаўка — юбілейная, бо ў снежні мінулага года мы адзначылі сваё пяцігоддзе, — распавядае Наталля Сак, кіраўнік клуба «Сузор'е». Мы пастараліся паказаць усё, чаго дасягнулі за гэты час. Прыхільнікі нашай творчасці бачаць, як расце майстэрства жанчын: працы сталі цікавейшымі, тэхніка — больш складанай. А наогул, гэта своеасаблівая хвароба — калі ты пачаў вышываць, спыніцца складана.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2760
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 07.02.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 491
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686